Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 5 (4805) 6 лютага 2015 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК ДА XXII МІНСКАЙ МІЖНАРОДНАЙ КНІЖНАЙ ВЫСТАЎКІ-КІРМАШУ




Чытайце на стар. 7 ▶

Фота Кастуся Дробава

*Адзін з аўтараў перакладу, супрацоўнік Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Цаа Чэнь распавядае пра кнігу «Беларусь вачыма кітайцаў» сваім калегам — выкладчыкам кітайскай мовы На Сяа і Фу Кунь.*













# Парукацца з Кітаем

**Напярэдадні кніжнага свята на пытанні «ЛіМа» ласкава пагадзілася адказаць Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.**

**— Лілія Станіславаўна, чым асабліва адметная XXII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш?**

— Галоўныя тэмы XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу — 70-годдзе Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне і «2015 год — Год моладзі».

Цэнтральнай дамінантай Нацыянальнай экспазіцыі Рэспублікі Беларусь «Перамога. Нам дарагі мір» стануць плакаты часоў Вялікай Айчыннай вайны і плакаты-пераможцы Міжнароднага конкурсу плаката патрыятычнай тэматыкі «Нам дарагі мір», прысвечанага 70-годдзю Вялікай Перамогі. Акрамя таго, будуць прадстаўленыя кнігі з фондаў Нацыянальнай кніжнай палаты, якія пабачылі свет у часы Вялікай Айчыннай вайны, і кнігі, прысвечаныя 70-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, выдадзеныя ў 2014 — 2015 гады.

Галоўным мерапрыемствам выстаўкі стане I Міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і час», які будзе доўжыцца з 10 па 12 лютага. Творцы з розных краін, прадстаўнікі розных пакаленняў сустрэнуцца, каб абмеркаваць тое, што адбываецца ў літаратуры сёння, распавесці пра свае праблемы і падзяліцца досведам.

Маладзёжная тэма таксама будзе шырока прадстаўлена на беларускім кніжным форуме. Акрамя прэзентацый кніг маладых аўтараў, тут аб'явяць пераможцаў конкурсу «Першая глава», якія толькі-толькі атрымалі права на першае ў сваім жыцці выданне.

У межах кніжнай выстаўкі адбудзецца і ўзнагароджанне пераможцаў Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі». Яшчэ адзін першы крок — конкурс «Нацыянальная літаратурная прэмія», які распачнецца на кніжным форуме, але вынікі яго будуць падведзеныя на Дні беларускага пісьменства ў Шчучыне. Упэўнена, работа ў членаў журы гэтага творчага спаборніцтва будзе няпростая — у нас вельмі шмат цікавых і таленавітых кніг, многія аўтары могуць прэтэндаваць на высокую ацэнку, але, на маю думку, перамогі вартыя тыя, чые творы застануцца ў нашай літаратуры, стануць складнікамі духоўнага жыцця нацыі. Кніга іграе вельмі важную ролю ў станаўленні чалавека, гэта неаднойчы падкрэсліваў і Кіраўнік нашай дзяржавы. Захаваць кнігу, зрабіць яе брэндам, тварам сённяшняй Беларусі — вялікая адказнасць! Аднак я ўпэўнена, што кожны госць выстаўкі адчуе сябе ў самым цэнтры кніжнага свету.

**— Адкуль чакаць гасцей?**

— Удзел у выстаўцы-кірмашы бяруць прадстаўнікі 28 краін свету. Ганаровым госцем стане Кітай, а тытул цэнтральнага экспанента мае Расія. Вялікія экспазіцыі прадставяць Германія, Францыя, Вялікабрытанія, Іран, ЗША. Важна, каб на выстаўцы былі прэзентаваныя не толькі сучасныя выданні, але і рарытэты, каб кожны змог адшукаць тут кнігу на ўласны густ, каб цікава было і дарослым, і дзецям. Дарэчы, на Нацыянальнай экспазіцыі Рэспублікі Беларусь для дзяцей будзе арганізаваная адметная пляцоўка, а пра справы дзіцячай літаратуры паразважаюць творцы на «круглым стале», які таксама адбудзецца падчас выстаўкі. Увогуле, кожны дзень будзе насычаны надзвычай цікавымі падзеямі. Такім чынам, XXII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш павінна стаць прасторай творчасці і натхнення!

**— Што хацелі б пажадаць беларускім творцам — удзельнікам кніжнага свята?**

— Актыўна прадстаўляць сябе і знаёміцца з творчасцю калег. Дзе яшчэ, як ні на Мінскай кніжнай выстаўцы-кірмашы, беларускаму аўтару можна парукацца з кітайскім калегам і абмяняцца з ім кніжкай!..

**— Калі б Вы былі пісьменніцай, Лілія Станіславаўна, якую кнігу напісалі б?**

— Я напісала б кнігу пра наша жыццё, пра нашу краіну і яе цудоўных людзей. Але ж я не пісьменніца *(усміхаецца)*… Таму спадзяюся, што такую кнігу я знайду на сёлетняй выстаўцы і з задавальненнем яе прачытаю!

**Таццяна СІВЕЦ**

# Перспектывы



**Напярэдадні XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу шмат клопатаў і ў пісьменніцкай арганізацыі краіны. Пра падрыхтоўку творцаў да падзеі — гутарка са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом.**

— Кніжны форум заўсёды ставіць перад пісьменнікамі шмат праблем і задач. Выданні нашых творцаў будуць шырока прадстаўлены і прэзентаваны на выстаўцы. Пісьменнікі возьмуць актыўны ўдзел у канферэнцыях і «круглых сталах»: абмяняюцца думкамі, меркаваннямі, выслухаюць калег. Для кіраўніцтва нашай арганізацыі не менш важныя сустрэчы з прадстаўнікамі замежных дэлегацый і сумеснае абмеркаванне магчымасцей творчага супрацоўніцтва.

Дамовы і пагадненні заключаны з пісьменніцкімі арганізацыямі больш як трыццаці краін, у тым ліку з Сербіяй, Кубай, Турцыяй, Азербайджанам, Казахстанам ды іншымі. Шмат якія з іх стануць гасцямі форуму.

**— Якія выдавецтвы сёння найбольш актыўна спрыяюць выпуску кніг айчынных пісьменнікаў?**

— З дзяржаўных — Выдавецкі дом «Звязда», «Мастацкая літаратура», «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Добрыя стасункі з прыватнымі выдавецтвамі «Харвест» і «Чатыры чвэрці».

**— Хто з айчынных пісьменнікаў, на вашу думку, найбольш зацікавіць удзельнікаў выстаўкі?**

— Пабачым! Безумоўна, найбольш яркія набыткі — кнігі прозы, паэзіі, публіцыстыкі. Сёлета, у год 70-годдзя Вялікай Перамогі, асабліва шырока будзе прадстаўлена літаратура, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне. Гэта творы Алеся Савіцкага, іншых франтавікоў, якіх, на вялікі жаль, у нашай арганізацыі засталіся адзінкі. З іх творамі будзе цікава пазнаёміцца маладым чытачам, бо гэта ж гісторыя нашай краіны. Сярод кніг гістарычнай тэматыкі апошнім часам прыкметныя творы, прысвечаныя Першай сусветнай вайне. Думаю, што наведвальнікаў выстаўкі зацікавяць кнігі на гэтую тэму празаіка Вячаслава Бандарэнкі, якія выйшлі і ў нас, і ў Маскве.

**— Гэты год, як вядома, аб'яўлены Годам моладзі. Кнігі маладых сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі можна будзе пабачыць падчас выстаўкі?**

— Так. У першую чаргу — выданні серыі «Маладая паэзія Беларусі» выдавецтва «Харвест», выпуск якіх курыруе галоўны спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення СПБ паэт Рагнед Малахоўскі. Кнігі маладых аўтараў выходзяць і пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі, і пры абласных пісьменніцкіх арганізацыях. Усе імёны назваць цяжка, бо іх багата.

На жаль, выдаць кнігу цяпер няпроста: патрабуюцца фінансавыя выдаткі. А які матэрыяльны прыбытак у маладых?.. Тут варта знайсці і задзейнічаць сродкі спонсараў.

У мінулым годзе Саюз пісьменнікаў Беларусі разам з Асацыяцыяй прадпрымальнікаў нашай краіны правёў рэспубліканскі літаратурны конкурс імя Максіма Багдановіча, па выніках якога выявілі багата таленавітай моладзі. Ёсць і прапановы, каб найбольш яркія маладыя таленты прымаць у Саюз пісьменнікаў Беларусі не толькі па кнігах, але і па прыкметных публікацыях у рэспубліканскім друку. Такое, дарэчы, практыкавалася і ў ранейшыя часы. Словам, у беларускай літаратуры, як сёння бачна, выдатныя перспектывы.

**— Як кіраўніцтва СПБ арганізуе сустрэчу з дэлегацыяй Кітайскай Народнай Рэспублікі — ганаровага госця выстаўкі-кірмашу?**

— Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі плануе правесці «круглы стол» з удзелам прадстаўнічай кітайскай дэлегацыі і абмеркаваць шляхі пашырэння супрацоўніцтва, актуальных пытанняў кнігавыдання. Падчас выстаўкі-кірмашу адбудзецца сустрэча ў Доме літаратара з удзелам кітайскіх і айчынных пісьменнікаў.

Творцы з КНР перакладаліся на беларускую мову і раней, перакладаюцца і цяпер. Будзем спадзявацца, што ў далейшым беларускія чытачы будуць яшчэ глыбей знаёміцца з літаратурай Кітая, а кітайскія — з творамі беларускіх пісьменнікаў.

**Яна ЯВІЧ**

# Час чытаць

Падчас прэс-канферэнцыі «Аб правядзенні XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу» ў Нацыянальным прэс-цэнтры Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч зазначыла: сёлета выстаўка, якая пройдзе ў беларускай сталіцы 11 — 15 лютага, змяняе «прапіску». Экспазіцыя размесціцца ў новым павільёне па праспекце Пераможцаў, 14.

Паводле Ліліі Станіславаўны, у айчынным кнігавыданні не змяншаецца беларускамоўны сегмент. Пра выпуск рупяцца як дзяржаўныя выдавецтвы — «Мастацкая літаратура», Выдавецкі дом «Звязда», Выдавецкі дом «Беларуская навука», «Народная асвета», так і прыватныя — «Аверсэв», «Чатыры чвэрці», «Белы вецер».

Лілія Ананіч падкрэсліла: «Мінская кніжная выстаўка-кірмаш стане найбуйнейшым кніжным форумам, якім адкрыецца каляндар міжнародных кніжных выставак».

Ганаровым госцем выстаўкі стане Кітайская Народная Рэспубліка. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Рэспубліцы Беларусь спадар Цуй Цымін распавёў: будзе прадстаўлена каля 5 тысяч кніг, выдадзеных у Кітаі, а падчас форуму мяркуецца падпісаць мемарандум паміж галоўным дзяржаўным упраўленнем па справах прэсы, выдавецтваў, радыёвяшчання, кінематаграфіі і тэлебачання КНР і Міністэрствам інфармацыі нашай краіны аб узаемных перакладах выданняў літаратурных твораў Кітая і Беларусі ў 2015 — 2020 гадах. Кітайскія пісьменнікі возьмуць удзел у выставачных мерапрыемствах, будуць прэзентаваны творы чатырох аўтараў з Паднябеснай. Адбудзецца і ўрачыстая цырымонія перадачы кітайскіх выданняў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

У форуме ўпершыню возьме ўдзел бразільская дэлегацыя. Чакаецца і прыезд ганаровых членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі: Чынгіза Аліаглу (Азербайджан), Эдуарда Мілітаняна (Арменія), Яронімаса Лаўцюса (Літва), а яшчэ — пісьменнікаў з Расіі, Украіны, Францыі, Германіі, Італіі, Ізраіля…

Айчынная кніжная экспазіцыя будзе прадстаўлена па тэматычных раздзелах: «Мая Беларусь», энцыклапедычная, вучэбная, дзіцячая, мастацкая літаратура.

Новыя кнігі, прысвечаныя Кітаю, падчас прэс-канферэнцыі прадставіў дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч. Алесь Мікалаевіч падкрэсліў: сёлета мы адзначаем 105-годдзе пачатку беларуска-кітайскіх літаратурных стасункаў, бо 105 гадоў таму ў газеце «Наша ніва» былі апублікаваныя кітайскія апавяданні і легенды ў перакладзе будучага акадэміка, кітаязнаўца Васіля Аляксеева. Увогуле, Выдавецкі дом «Звязда» ўважлівы да кітайскай літаратуры: у 2012-м пабачыла свет анталогія «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая», укладальнік і перакладчык якой — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, паэт Мікола Мятліцкі.

**Дана ХОДНІЧ**

# Рэгіёны на форуме

**Як на чарговай Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы будзе прадстаўлена літаратура рэгіёнаў? «ЛіМ» звярнуўся да старшыняў Мінскага гарадскога і абласных аддзяленняў Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**Міхась Пазнякоў, Мінскае гарадское аддзяленне СПБ:**

— Сярод новых кніг сяброў нашага аддзялення, якія мяркуецца прадставіць на выстаўцы, — «Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны» Віктара Ермаловіча, «Вайна» Уладзіміра Гніламёдава, «Аперацыя "Кроў"» Мікалая Чаргінца, зборнік «Пераможцы» — сумесны праект Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і Цюменскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі, кнігі серыі «Мінскія маладыя галасы», перакладная літаратура, паэзія, проза…

Для мяне гэты форум — вялікае свята кнігі, літаратурныя агледзіны за год, што знаёмяць з выдавецкімі набыткамі іншых краін, паказваюць, якая тэматыка сёння запатрабавана, чаго бракуе, на якія аспекты ў гэтым рэчышчы варта звярнуць асаблівую ўвагу, бо і беларускія пісьменнікі, у тым ліку маладыя, пэўным чынам уплываюць на сусветны літаратурны працэс.

**Анатоль Крэйдзіч, Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ:**

— Збіраемся прадставіць кнігі сваіх сяброў, выдадзеныя летась. Спадзяюся, так і атрымаецца. Называць усе наўрад ці ёсць сэнс, бо іх шмат.

Як чытача мяне будзе цікавіць усё: новыя выданні вядомых аўтараў, новыя імёны, а яшчэ — афармленне кніг. Гэты бок выдавецкай дзейнасці вельмі важны. Ну, а ўлічваючы, што жыву ў глыбінцы, працую галоўным рэдактарам газеты ў невялічкім, памежным з Украінай раёне Брэстчыны — Іванаўскім, сумяшчаю гэтую справу з кіраўніцтвам абласной пісьменніцкай суполкай, то за штодзённай мітуснёй шмат чаго не паспяваю заўважыць у шматстайным літаратурным жыцці краіны, тым больш — свету. Таму міжнародны кніжны форум — выдатная нагода абстрагавацца ад руціны і засяродзіцца на кнізе.

**Тамара Краснова-Гусачэнка, Віцебскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Плануем прадставіць на гэтым форуме шэраг кніг пісьменнікаў Віцебшчыны, у тым ліку паэтычны зборнік Мікалая Намеснікава «Час яблыкаў», кнігу прозы Барыса Беляжэнкі «Дарога Бачэйкава — Бешанковічы», зборнік вершаў і прозы Антона Параскевіна (сапраўдныя імя і прозвішча — Віктар Улюценка) «Камяні гавораць», а таксама мае кнігі: паэтычны зборнік «Сустрэча» і выданне для маленькіх «Гэта кніга дзецям аб усім на свеце».

Выстаўка — перш за ўсё магчымасць сустрэцца і пагаварыць з калегамі, даведацца пра новыя кнігі, пабачыць розных аўтараў. Вельмі радуе, што такое свята ладзіцца штогод.

**Уладзімір Гаўрыловіч, Гомельскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Правядзенне міжнародных кніжных выставак-кірмашоў — вельмі карысная справа для нас. Па-першае, ёсць унікальная магчымасць, не выязджаючы за межы Беларусі, пабываць у многіх краінах свету і адкрыць для сябе іх духоўны, кніжны свет, сустрэцца з цікавымі творчымі людзьмі, паўдзельнічаць у семінарах і «круглых сталах». Канечне, усё гэта больш даступна мінчанам, а мы, жыхары рэгіёнаў, звычайна выбіраем найбольш змястоўны па сваім духу і настроі дзень, але і гэтага дастаткова, каб зразумець, што кніга — з'ява вечная. Традыцыйна на свята кнігі прыязджаюць нашы сябры-калегі з розных краін, і нішто не заменіць такіх сустрэч…

Увогуле, у 2014 годзе 35 гомельскіх літаратараў адрасавалі шырокаму чытачу новыя выданні прозы, паэзіі, публіцыстыкі. Калі, напрыклад, з творчасцю Васіля Ткачова, Валянціны Кадзетавай, Ніны Шкляравай айчынны чытач ужо знаёмы, новыя іх творы, бясспрэчна, зноў парадуюць. Думаю, для многіх надзвычай прыемным адкрыццём стануць кнігі гомельскіх празаікаў-раманістаў Аляксандра Алейніка і Зоі Гарынай.

**Людміла Кебіч, Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Падчас выстаўкі на стэндзе Саюза пісьменнікаў плануецца прэзентацыя літаратурных альманахаў абласных аддзяленняў, у тым ліку і нашага — «На Нёманскай хвалі». Кнігі гродзенскіх аўтараў плануюць прадэманстраваць як дзяржаўныя, так і прыватныя выдавецтвы, у тым ліку «Рэгістр», «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Мяркую, што літаратура Гродзеншчыны будзе прадстаўлена на кірмашы хоць і не шырока, але годнымі аўтарамі і творамі.

Хацелася б, каб падчас такіх форумаў ладзілася як мага больш імпрэз, асабліва паэтычных, з удзелам прадстаўнікоў абласных аддзяленняў Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Уладзімір Дуктаў, Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Летась у Выдавецкім доме «Звязда» пабачыў свет альманах «Прыдняпроўе — край талентаў», які стаўся вынікам нашага плённага творчага супрацоўніцтва. Выданне маштабна адлюстроўвае сённяшняе літаратурнае жыццё Магілёўшчыны. Тут сабраны творы амаль 50 аўтараў. Безумоўна, прэзентацыя альманаха на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы будзе знакавай падзеяй асабіста для мяне і новай яркай старонкай у культурным жыцці нашага рэгіёна.

**Алесь Карлюкевіч, Мінскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Сёлетняя кніжная выстаўка па традыцыі прадставіць чытачам, наведвальнікам, кнігавыдаўцам і пісьменнікам з іншых краін і кнігі сяброў нашага аддзялення, куды цяпер уваходзіць больш як 80 літаратараў. Апошнім часам пабачылі свет кнігі Генадзя Аўласенкі, Валянціны Гіруць-Русакевіч, Ірыны Карнаухавай, Зіновія Прыгодзіча ды іншых нашых калег. Мне асабіста вельмі прыемна было прачытаць новы том серыйнага выдання Зіновія Прыгодзіча — «Постаці»: пад адной вокладкай сабраны дыялогі з вядучымі дзеячамі беларускай культуры. Кніга — добры падручнік для тых, хто збіраецца займацца журналістыкай, публіцыстыкай. Уражвае плённая праца дзіцячага пісьменніка Генадзя Аўласенкі. Піша ён і вершы, і фантастыку, перакладае на беларускую з іншых моў, з іншых літаратур. Радуе руплівасць Ірыны Карнаухавай. На выстаўцы наша аддзяленне прэзентуе чарговы калектыўны зборнік паэтаў, празаікаў, публіцыстаў Міншчыны.

Чаго чакаю ад выстаўкі?.. Новых кніжных ідэй — і для сяброў нашага аддзялення, і для Выдавецкага дома «Звязда». Спадзяюся, што адкрыем і нешта новае ў плане прапаганды і распаўсюджвання кніг. Хіба гэта не важная і актуальная тэма для пісьменнікаў сёння?..

**Арына КРАЙКО**

# Знакавая падзея свята

Менавіта такую характарыстыку надаюць будучаму Кітайска-беларускаму форуму кнігавыдаўцоў розныя яго ўдзельнікі.

А ў пярэдадзень адкрыцця XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ў Выдавецкі дом «Звязда» завітала прадстаўнічая дэлегацыя Кітайскай нацыянальнай карпарацыі па экспарце і імпарце кніг: намеснік дырэктара спадар Фан Сючжу, начальнікі аддзелаў Ван Ю йань, Юань Дза янь.

Падчас размовы былі сплананаваны самыя розныя сустрэчы беларускіх і кітайскіх выдаўцоў і пісьменнікаў. Днямі ў Мінск прыедуць вядомыя кітайскія пісьменнікі А Лай, Лаа Ма, Сі Чуань, Сюй Цзэчэнь (сёння яны таксама выступаюць на старонках газеты «Літаратура і мастацтва»). Творцы возьмуць удзел у сустрэчах з чытачамі, «круглых сталах», наведаюць Саюз пісьменнікаў Беларусі. Госці пазнаёміліся з публікацыямі, прысвечанымі кітайскай літаратуры, выказалі ўдзячнасць газеце «Літаратура і мастацтва», часопісам «Полымя», «Маладосць», «Нёман» за ўвагу да кітайскага прыгожага пісьменства.

— Мы запрашаем вас да ўдзелу ў Кітайска-беларускім выдавецкім форуме, — звярнулася да кіраўніцтва Выдавецкага дома «Звязда» спадарыня Ван Ю йань. — Спадзяёмся, што падчас яго работы атрымаецца скласці планы супрацоўніцтва беларускім і кітайскім выдаўцам. У Кітаі ведаюць Выдавецкі дом «Звязда», пра яго пісалі ў агульнакітайскай літаратурнай газеце. Нам прыемна бачыць, што вы неабыякава падышлі да падрыхтоўкі выстаўкі. Прэзентацыя кніг, якія прадстаўляюць кітайскую літаратуру на беларускай мове, якраз і сведчыць пра гэта. Важна прадоўжыць работу. На стэндзе КНР мы выстаўляем некалькі дзясяткаў кніг кітайскіх аўтараў на беларускай мове. Падабраць іх нам дапамаглі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. А кітайскія кніжнікі сабралі выданні беларускага прыгожага пісьменства, здзейсненыя ў Паднябеснай. Такіх кніг таксама назбіралася некалькі дзясяткаў. Ведаем, што сёння ў Беларусі шмат хто вучыць кітайскую мову. Магчыма, з іх шэрагаў вылучацца перакладчыкі нашых паэтаў і празаікаў з мовы арыгінала. Нам вельмі хацелася б, каб перастваралі не толькі класічныя творы, але і сучасную кітайскую прозу і паэзію.



Фота Аляксандра Шаблюка

*Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч вядзе гутарку з кітайскімі гасцямі.*

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

# Шчыры дыялог: пастскрыптум

Сустрэча прадстаўнікоў рэспубліканскай і замежнай прэсы з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам гэтым разам прайшла ў форме адкрытага дыялогу. Пра важную для ўсіх беларусаў падзею з чытачамі «ЛіМа» ўражаннямі дзеляцца кіраўнікі перыядычных выданняў, якія бралі ўдзел у форуме.

**Алесь Бадак, намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Полымя»:**

— На сустрэчы з Кіраўніком дзяржавы прысутнічалі прадстаўнікі самых розных выданняў — дзяржаўных і недзяржаўных, айчынных і замежных. Пытанні абмяркоўваліся розныя, чым і каштоўны такі шчыры дыялог, які датычыў самых розных аспектаў грамадскага жыцця і дзяржаўнай палітыкі.

Прэзідэнт адказаў дэтальна і грунтоўна на ўсе пытанні. Шмат якія з іх датычылі складанай сітуацыі ў свеце і міжнародных адносін, звязаных з нашымі бліжэйшымі суседзямі. Прыемна, што ніхто з удзельнікаў сустрэчы з Прэзідэнтам не застаўся непачутым.

**Анатоль Крэйдзіч, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўны рэдактар іванаўскай раённай газеты «Чырвоная звязда»:**

— Я ўдзельнічаў і ў папярэдніх прэсканферэнцыях Кіраўніка дзяржавы, заўсёды вельмі ёмістых, эмацыянальных, змястоўных. Адкрыты дыялог з Прэзідэнтам краіны доўжыўся больш як сем гадзін. І мог доўжыцца яшчэ столькі ж, бо жадаючых падтрымаць гэтую шчырую гутарку было вельмі многа. Мне таксама хацелася атрымаць адказы, а дакладней, парады, па хвалюючых пытаннях. У кожным слове Прэзідэнта прысутнічала свежасць думкі і добразычлівасць.

**Ніна Рыбік, галоўны рэдактар раённай газеты «Астравецкая праўда»:**

— Большасць з гродзенскай дэлегацыі ў гэтым «аплоце дзяржаўнай незалежнасці», як сказаў Прэзідэнт на пачатку размовы, была ўпершыню. Падчас сустрэчы ўсе найперш адзначылі неверагодную працаздольнасць Кіраўніка дзяржавы: больш як сем гадзін дыялогу, падрабязныя, разгорнутыя, дасведчаныя адказы… І нават калі, здавалася, пытанні скончыліся, Прэзідэнт цікавіўся: «Ці ўсе, хто хацелі, выказаліся? Ці на ўсе вашы пытанні я адказаў?» Гэта проста фантастыка!

Мяне вельмі ўсцешылі і такія словы Прэзідэнта: кожны грамадзянін краіны павінен валодаць абедзвюма дзяржаўнымі мовамі. Хочацца спадзявацца: падобныя «шчырыя размовы пра галоўнае» працягнуцца.

**Яна ЯВІЧ**

## Аляксандр СЯГОДНІК:

# «Кніга сфарміравала мяне як асобу»



Ці памятаеце сваю першую прачытаную кнігу? Які ўплыў аказала літаратура на ваша жыццё?.. Упэўнена, што падобныя пытанні лагічна задаваць не кожнаму. Хаця б таму, што не кожны адкажа. Для Аляксандра Сягодніка, старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і навуцы, кніга і ўсё, што вакол яе, — не пустыя словы. А прычыны гэтага куды глыбейшыя, чым службовы абавязак ды прафесійны інтарэс.

— Маёй першай кнігай былі казкі, — прыгадаў Аляксандр Іванавіч на пачатку гутаркі. — У нашай вёсцы працавала сельская бібліятэка, якую многія з цікавасцю наведвалі яшчэ з маленства і перш за ўсё імкнуліся прачытаць беларускія народныя казкі. Дома мой дзядуля захоўваў як рэліквію кнігу твораў братоў Грым і часта звяртаўся да яе, каб прачытаць мне казку ці прывесці павучальны ўрывак з яе, а потым ужо раіў, што пачытаць і самому. Напэўна, гэта і падштурхоўвала да чытання, развівала цікавасць да кнігі.

У сярэдніх і старшых класах бацькі ўжо далёка за поўнач, можна сказаць, сілком адрывалі ад кнігі. Прыходзілася калі-нікалі чытаць і пад коўдраю — з ліхтарыкам.

І калі прыйшоў час выбару прафесіі, то перш за ўсё думаў пра кнігу. Так патрапіў на філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. А там тэатр чытальнікаў «Жывое слова» раскрыў яшчэ і непаўторны свет паэтычнага радка, яго ўздзеянне на чалавека, уменне словам выказаць, перадаць, згуртаваць, аб'яднаць, паўплываць…

У выніку можна сказаць, што кніга сфарміравала мяне як асобу, дапамагла ў выбары прафесіі і стала яе часткай, навучыла размаўляць, усталёўваць стасункі з людзьмі, дапамагала ў справах. Тым самым шмат у чым паўплывала і на мае кар'ерныя прыступкі.

**— Наколькі цікавыя вам кніжныя навінкі, у першую чаргу айчынныя? Ці збіраецеся вы наведаць кніжную выстаўку?**

— Кніга — частка маёй прафесіі, таму кнігарні я наведваю пастаянна, знаёмлюся з навінкамі праз СМІ, інтэрнэт. Айчыннае кнігавыданне мяне цікавіць у першую чаргу. Стараюся і сам быць карысным для тых, хто любіць кнігу.

Так, у Віцебску разам з зацікаўленымі людзьмі арганізавалі і штогод праводзілі выязныя літаратурныя гасцёўні ва ўстановах адукацыі, раз у два гады праводзілі фестывалі літаратурнай творчасці навучэнцаў з абавязковым выданнем зборніка твораў маладых літаратараў. У Гродне — абласны фестываль паэзіі педагагічных работнікаў «Паэзія — рух душы», выдавалі зборнік вершаў яго ўдзельнікаў.

Па магчымасці прымаў удзел у кніжных выстаўках падчас правядзення Дзён беларускага пісьменства, рэгіянальных свят. Напрыклад, на маёй роднай Берастаўчыне ўжо не адзін год праходзіць паэтычны фестываль «Масалянскія салаўі». У невялічкі аграгарадок з'язджаюцца гродзенскія пісьменнікі, прыходзяць зацікаўленыя слухачы, якіх хвалюе роднае слова.

Наведваю і Мінскую міжнародную кніжную выстаўку. Спадзяюся пабываць і на сёлетняй, XXII-й.

**— Якія законапраекты, скіраваныя на падтрымку кнігавыдання, папулярызацыю кніг, былі прынятыя ў Палаце прадстаўнікоў ці знаходзяцца на разглядзе ў профільнай камісіі?**

— 29 снежня 2012 года ўступіў у дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь», падрыхтоўкай якога ў парламенце займаліся дэпутаты нашай камісіі, праўда, чацвёртага склікання.

Гэта першы ў нашай краіне заканадаўчы акт у згаданай сферы, якім вызначаюцца асновы выдавецкай справы і напрамкі дзяржаўнай палітыкі.

Згодна з Законам дзяржаўная палітыка ў сферы выдавецкай справы накіравана ў тым ліку на развіццё і падтрымку нацыянальнага кнігавыдання, пашырэнне рынкаў збыту друкаваных выданняў, развіццё дзяржаўна-прыватнага партнёрства (артыкул 4).

Палажэннямі Закона прадугледжваецца аказанне дзяржаўнай ды іншай падтрымкі выдаўцам, вытворцам і распаўсюджвальнікам друкаваных выданняў, у тым ліку шляхам прыняцця мер эканамічнага стымулявання. Вызначэнне ўмоў і парадку аказання такой падтрымкі знаходзіцца ў кампетэнцыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Да мер дзяржаўнай падтрымкі, вызначаных у Законе, адносяцца падрыхтоўка і выпуск у свет сацыяльна значных выданняў згодна з вызначанымі дзяржавай прыярытэтамі і з прыцягненнем у тым ліку сродкаў рэспубліканскага бюджэту. Так, фонды бібліятэк камплектуюцца перш за ўсё сацыяльна значнымі выданнямі.

Грамадскія адносіны ў выдавецкай справе ў частцы, звязанай з выданнем твораў літаратуры, якія маюць значэнне для захавання, развіцця і распаўсюджвання культуры, рэгулююцца Законам «Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь». Дакументам прадугледжваецца размяшчэнне сацыяльна-творчых заказаў на стварэнне новых твораў мастацкай літаратуры. У прыватнасці, вызначана, што дзяржаўныя органы, якія займаюцца рэгуляваннем і кіраваннем у галіне культуры, стымулююць выданне літаратуры, якая мае значэнне для захавання, развіцця і распаўсюджвання культуры (літаратурныя творы нацыянальнай тэматыкі, для дзяцей і моладзі, класічныя мастацкія творы ды інш.).

**— Якія захады, з вашага пункту гледжання, павінны прымацца дзяржавай, грамадствам ды самімі творцамі, каб беларуская кніга была цікавай не толькі аматарам літаратуры, а беларускае слова — блізкім кожнаму з нас?**

— Рэзервы заўсёды ёсць у любой справе, тым больш у творчай. На маю думку, патрэбна прыняцце мэтавага праграмнага дакумента аб дзяржаўнай падтрымцы кнігавыдання і чытання.

Калісьці добрай практыкай былі сустрэчы з пісьменнікамі ў працоўных калектывах, раённых, гарадскіх і вясковых дамах культуры, установах адукацыі. Гэтыя традыцыі трэба больш актыўна выкарыстоўваць і цяпер: арганізоўваць рэгіянальныя кніжныя святы, фестывалі, выстаўкі, літаратурныя гасцёўні. Часцей праводзіць сустрэчы з пісьменнікамі на тэлебачанні, рыхтаваць пра іх асобныя перадачы.

Але самім творцам і літаратурным аб'яднанням таксама варта праяўляць большую актыўнасць, быць ініцыятарамі і арганізатарамі падобных мерапрыемстваў, супрацоўнічаць з адпаведнымі ўстановамі і арганізацыямі. Рознымі сродкамі даносіць да людзей прыгажосць і непаўторнасць роднага слова, хваляваць іх душы, сэрцы і розум. Як сказаў наш славуты класік М. Багдановіч:

*Трэба з сталі каваць,*
*гартаваць гібкі верш,*
*Абрабіць яго трэба з цярпеннем.*
*Як ударыш ты ім, —*
*ён, як звон, зазвініць,*
*Брызнуць іскры з халодных*
*каменняў.*

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

Чынгіз АЛІАГЛУ



АЗЕРБАЙДЖАН

## Чалавек на маставой

*Хто ты, брат мой адзінокі?*
*Што з паніклай галавой*
*Сочыш ты людзей патокі,*
*Чалавек на маставой?*
*Запацелы грош у жмені,*
*Сам, як трэска, паміж хваль,*
*Рукі ўбокі ды ў кішэні —*
*Трэба жыць, і ўся мараль.*
*Крок супыніш ля вітрыны,*
*А вітрына — як на кпіны:*
*Колькі ўсякага дабра!*
*Шмотак зваблівых ахапкі,*
*Тут і футравыя шапкі,*
*Міскі, лыжкі з серабра,*
*Тут кашнэ і ёсць шкарпэткі,*
*Мыла ды веласіпед.*
*Паглядзіш на выбар гэткі,*
*Дык забудзеш пра абед.*
*Сам сабе не супярэч,*
*Пастаіш і пойдзеш прэч.*
*Павалока смутку з воч:*
*Зноў у даждж і зноў — у ноч!*
*Цень твой сіні, як неон,*
*Не брыдзе цень наўздагон...*
*Што з паніклай галавой,*
*Чалавек на маставой?*

## Рытмы Габустана

*Сіняя брама — насцеж!*
*Стуль, дзе вяршынь града,*
*выглянула сонца —*
*рыжая барада.*
*Над самым прадоннем*
*гулкае ўлонне.*

*Прачнуўся,*
*ачуўся*
*каменны схоў.*
*Скалы ўзмахнулі*
*клінкамі вякоў.*
*Крок адступілі —*
*з-пад цёмнай сцяны*
*рынулі смерчам*
*агню табуны.*

*Рабыя.*
*Гнядыя.*
*Дэрашы.*
*Маштакі.*
*Да грываў прыпалі мае седакі.*
*Скачуць — віхляюць, тупат — шквал!*
*Тоне тупат у пашчы скал.*

*Сцежкі іскрацца.*
*Смерч на кані.*
*Крэмень, крэсіва —*
*капыты, камяні.*
*Чыркне падкова*
*іскры наўзлёт,*
*пырнік, палын*
*затлеюць, бы кнот.*

*Іскраю — выкрык,*
*з каменя — звон.*
*Звер?*
*Мільгануўся!*
*Хутчэй — наўздагон!*
*З пашчай ікластай*
*на соннай градзе*
*пячора завойкала:*
*— Звер блізка ўпадзе!*
*Грымнуў, не моўкне*
*каменны тамтам:*
*— Звер у знямозе!*
*Там ён, там!*
*Ты ж на кані*
*даганяў —*
*дагані!*

## Помнік Пушкіну ў Баку

*У дрэў бакінскіх на макушцы вушкі,*
*Шушуканне і шэпты: вось дык госць!*
*Азяблы ў сцюжах пецярбургскіх, Пушкін*
*Адтаў тут сэрцам, і не мучыць злосць.*
*Ды зразумелы вечны гнеў паэта:*
*Далёка ад маны і зайздрасці не ўцёк.*
*Любоўю памяць генія сагрэта,*
*Пракляты ферт, што цісну ў*
*на курок.*

*Хто патаптаўся на прарочым слове,*
*Ён клячаю заржэ, адно пакліч.*
*Вось бачыце: рука напагатове*
*Трымае кары справядлівай біч.*

## Крос

*Цераз слоту ці балотам,*
*Нацянькі праз дзіч і яр,*
*Дабяжы, абліты потам,*
*Не запэцкай толькі твар.*

*Вось і фініш — сілы б крышку!*
*Бокам, скокам, сяк і так,*
*І сустрэне замухрышку*
*Смех няўдзячных разявак.*

*На этапах мокра, слізка,*
*Але з трасы не вылазь.*
*А да мэты ўсё ж наблізка,*
*А да мэты — гразь ды гразь.*

*Будзе многа мець рэгалій*
*З ног заляпаны кумір.*
*Шлях да славы пралягае*
*Цераз гразь. Такі турнір.*

**З азербайджанскай.**
**Пераклад Віктара ГАРДЗЕЯ**

Рэнат ХАРЫС



РАСІЯ

## Варты жалю

*Я прагу векавую змог спатоліць,*
*Як навучыўся людзям дараваць.*
*Цяпер шкадую ўсіх, хто не адолеў*
*Навукі слушнай сэрцам пераняць.*
*І ўжо мяне пакінуў боль зняміlы,*
*Упэўненым зрабіўся кожны крок —*
*Ісці далей стае жыцця і сілы.*
*У жылах кроў, нібы вясновы сок, —*
*Пульс навальніц спаліў усе заторы.*
*Я стаў вышэй за самага сябе!*
*І з тых вышынь цяпер гляджу на горы!*
*А той, хто сэрца крыўдамі скубе —*
*Той варты жалю, як жабрак апошні,*
*Яму нябёс плячамі не трымаць,*
*Не агарнуць крылом птушыным пожні.*
*Бо ад зямлі вачэй не адарваць.*

***

*Пажыў я на свеце нямала гадоў*
*І шмат чаго бачыў, і шмат*
*што знайшоў.*
*Знайшоў у жыццёвых далечах*
*сцяжыну,*
*Дзе крочыла шчасце ўсялякага чыну.*
*Не раз там вітаўся з імгненным*
*і крохкім,*
*Ішоў над гару за падманым*
*і лёгкім.*
*Спяшаўся за шчасцем цнатлівым*
*і чыстым,*
*Здымаў капялюш*
*перад гордым,*
*вячыстым.*
*З душой сустракаў, як бяздоннае мора,*
*І шчасце, якому імя — Непакора.*
*Было, прызнаюся, са мной і такое:*
*Галубіў у роспачы шчасце чужое.*
*Ды што пазалеташні снег памінаць —*
*Пра іншае хочацца зараз сказаць.*
*Скажу пра яшчэ адно шчасце*
*на свеце —*
*Гулліваe, вольнае, нібыта вецер,*
*Што ў яве і ў сне да маёй маладосці*
*Акрыленай марай з'яўлялася ў госці.*
*З ім шмат вандраваў*
*па краінах далёкіх,*
*Ды помніў свае карані і вытокі.*
*Але — што мне дадзена лёсам —*
*збылося,*
*Пабачыць на свеце ўсяго давялося.*
*І там, ля магілаў сваіх землякоў,*
*Апошняе шчасце людское знайшоў.*
*Таму, ўсё прыняўшы, — прыйшоў*
*да высновы:*
*Ёсць шчасце яшчэ! Яно — подых*
*вясновы,*
*Яно — разуменне і існасць быцця,*
*Прытулак бясконцасці, вынік жыцця.*
*Як з выраю зноўку вяртаецца птах,*
*Так сэрца знаходзіць да вечнасці шлях.*
*Ды хопіць, сказаў пра галоўнае досыць...*
*Сустрэў і паэт сваю ўвішную восень.*
*А зараз прарочу, як верны твой сын,*
*Ёсць шчасце — знайсці на Радзіме*
*спачын.*

## Стварыў па неабходнасці

*Я нікому не ставіў падножкі.*
*Але заўсёды знаходзіцца шмат тых,*
*Хто не змог утрымацца на нагах,*
*Спатыкнуўшыся аб мяне.*
*Мабыць, нехта з іх і шморгаў носам,*
*Выціраючы рукавом крывавую юшку,*
*А нехта і, седзячы на кукішках,*
*скуголіў,*
*Аглядаючы падзёртыя каленкі.*
*Не лаянка і не лямант,*
*А найстрашэнныя пагрозы*
*Даходзілі да вушэй маіх.*
*Але жыць і вар'яцець ад думкі,*
*Каб жа толькі нікому*
*не перашкодзіць,*
*Ці можа быць справай чалавека,*
*Народжанага перамагаць*
*самога сябе?!*
*Сваім з'яўленнем на свет белы,*
*ці што,*
*Я вінаваты перад тымі,*
*Хто спіць і не бачыць*
*жыцця?!*
*Бог мяне стварыў*
*па неабходнасці,*
*І, без сумневу, прадумаў усё...*

## Маналог старога воўка

*Я — стары воўк! Здалёк адчуваю*
*І паляўнічага і яго пастку.*
*Але трымаю за зубамі злосць,*
*Нават калі яна вые, як пусты*
*страўнік.*
*Аднаго разу паляўнічы*
*усё ж такі*
*Здолеў параніць мяне.*
*Але, ап'янелы ад сваёй перамогі,*
*Не ўбачыў, як з'ядналіся ў адно*
*Халодны свінец у сталёвай шыі,*
*Гарачая нянавісць у сэрцы*
*І цвярозая мэта ў галаве.*
*Людзі называюць гэта —*
*помстай.*
*Узброіўшыся ёю, я спяшаюся*
*Насустрач небяспецы,*
*Бо, па майму разуменню,*
*Учыненае зло нельга выбачаць!*
*Пасткі, сілкі абыходжу,*
*Злосці не даю волі,*
*Але мяне самога ўжо знутры*
*Праглынула ненажэрная*
*помста.*

## Сапраўды

*З вышынь гадоў прыходжу да высновы:*
*Не трэба шмат, каб ісціну знайсці.*
*Бывае, з вуснаў суразмоўцы слова*
*Каштуе лепшых цудаў у жыцці.*

**З татарскай.**
**Пераклад Іны ФРАЛОВАЙ**

Эдвард МІЛІТАНЯН



АРМЕНІЯ

## Словы

*Паэту балела. Ён змружваў павекі*
*ад болю.*
*І словы цяклі з-пад павекаў.*

*Ён слова не ведаў. Бо слова было*
*Нараджэннем.*

*Ён слова не ведаў. Бо смерцю было яму*
*Слова.*

*Ён жыў, калі слова жыло.*
*Калі слова было яму*
*Часам.*

*Паэту балела. Ён боль заціскаў у кулак.*
*І з вачэй яго капалі словы.*

## Ліст Дантэ Аліг'еры

*Дантэ, прашу, напішы нашы*
*вершы за нас,*
*Напішы пра каханне, пакуту,*
*пра вечнасць і праўду.*
*Час для словаў не лепшы цяпер,*
*Але словы — не хлеб.*
*Вершаў паменела — і ніхто не заплакаў.*
*Бачыш, нейкі класічны вар'ят,*
*да таго ж і з Гюмры,*
*Зноў з п'едэстала сыходзіць,*
*Ідзе да шумлівай падземкі,*
*Быццам калісьці ў Венецыі,*
*ён паўтарае бясконца:*
*— Бойцеся, голад Душы набліжаецца,*
*Праўду кажу вам...*
*Людзі, стамлёныя, скоса глядзяць на паэта:*
*Толькі яго тут, маўляў, сярод нас*
*не хапала!*
*Хто штурхане яго,*
*Хтосьці капейчыну кіне.*
*Голад Душы па-над краем,*
*як боская манна,*
*Бачыш, ім кормяцца ўсе —*
*У шынках і сталовых —*
*Ён жа ніяк не закончыцца,*
*Сам вар'яцееш.*
*Болей няма куды — час яго спальваць,*
*бы смецце...*
*Ёсць тут каханне, ёсць вартыя*
*песень і вершаў,*
*Як Беатрычэ, Лаура,*
*І ты, калі маеш жаданне,*
*Можаш спаткацца хоць з самай*
*чароўнай цнатліўкай,*
*Хоць з Месалінай — усё, што захочаш,*
*васпане.*
*Ты толькі штось напішы,*
*каб закатвалі вочы,*
*Каб нашы душы сыходзілі стогнам*
*і енкам.*
*Каб не скублі мы адно аднаго, каб не елі.*
*Нат Авеяцік нас не можа страфою*
*сваёй супакоіць,*
*Хоць пагражае, ды хто яго будзе баяцца,*
*Ён паўтарае (ды хто яго ўчуе?):*
*— Кажу вам...*
*Ён надакучыў нам, толькі нічога*
*не зробіш —*
*І з пастамента сыходзіць ён —*
*аніяк не ўтрымаем.*
*Дантэ, прыходзь, пасядзі з ім,*
*уважыш старога —*
*Можа й не будзе начамі блукаць*
*па дарогах.*
*Мы і табе паўнавартасны помнік*
*паставім,*
*Зморчны, як трэба, з лаўровым*
*вянком — прад вачыма*
*Будуць, канечне, Чысцец, Пекла,*
*Райскія шаты.*

**З армянскай.**
**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

МАЛДОВА

Юрый ІВАНОЎ

# Пра кума Івана і куму Марусю

На самым пачатку майго «благаславёнага» 99-га года кум Іван — мой нагаранскі сусед, — седзячы на старой лаўцы пад вокнамі сваёй хаткі — «куморы», пачуваўся зусім блага: ад учарашняга вечара ён не глынуў ні кроплі. На жаль, глытаць не было чаго і не было адкуль: уся самагонка, усе вішнякі, настойкі і нават мінулагодняя дрожджы былі ўжо даўно выпітыя, а ў мясцовых шынках і забягалаўках, якіх на той час у Нагаранах з'явілася вялікая колькасць, «пенсіянеру калгаснага значэння» больш не налівалі. Суровыя прадаўшчыцы, тыцкаючы тлустым пальцам у даўжэзныя спісы даўжнікоў, у якіх кум Іван займаў «пачэсныя» першыя месцы з прычыны нявыплаты яму заслужанай пенсіі за паўгоддзе, пасылалі «вид ворот, да ву поворот!..», але як туды прайсці, ён і сам выдатна ведаў. Адзіная дачка, якая жыла разам з унукамі дзесьці за Уралам, ужо трэці месяц як не дасылала бацьку ні капейчыны, бо ёй затрымлівалі заробак на ваенным заводзе. І застаўся ў кума Івана толькі адзін падраны лей, з якога на яго грозна, але з жалем глядзеў вусаты валадар усёй былой Малдовы…

— О, Вялікі Штэфан!.. — пачаў маліць кум, гледзячы на пакамечаны твар валадара. — О, Вялікі Спадар! — працягваў ён зусім жаласным голасам. — Паўстань са сваёй каменнай труны!.. Скінь са сваёй магілы цяжкую пліту! Ідзі да свайго вернага каня і клікні сваё непераможнае войска! А тым ліхадзеям-начальнікам, хто жывы застанецца, загадай, Вялікі Спадар, павыплачваць мне ўсю маю пенсію — ды стадоларавымі паперкамі за кожны пратэрмінаваны лей…

Аднак, нягледзячы на палкія заклікі кума Івана, смелы і справядлівы ваявода маўчаў і зусім не спяшаўся саскочыць з заўнічым імпэтам з раскіслай купюры. Кум не наракаў, але такі стан быў проста невыносны, і ён вырашыў, што яму самы час памерці. Пакладзеца на лаўку, сцяў рукі на грудзях і ўтаропіўся ў майскія нябёсы…

Паўсюдна віравала, кіпела, відавочна набірала сілу новае жыццё!.. Няспынна верашчалі ў дупле старога каштана маленькія шпакі, якія толькі-толькі пабачылі свет і якім бацькі цягнулі дробную жыўнасць з усіх куткоў свайго і суседскіх гародаў. Шчабятушкі-ластаўкі старанна падпраўлялі старыя гнёзды.

Раптам ад скрушлівых думак кума Івана адцягнуў нейкі пах, які відавочна не стасаваўся з навакollем і струменіўся праз шчыліну ў высокім плоце суседкі — кумы Марусі. «Самогонка!.. Бурачанка!» — даў сігнал мозг. Кум імгненна ажыў, зараз жа скінуў з сябе здранцвенне і адразу пасунуўся да плота кумы. Перад пасвятлелымі вачыма нашага пакутніка паўстала чароўнае відовішча: павольнымі, дакладнымі рухамі кума Маруся залівала пяршак з самагоннага апарата ў вялізную бутэльку з зялёнага шкла. Гэта быў той самы легендарны штоф аб'ёмам у добрыя літраў пятнаццаць, які кум Пятро — нябожчык-муж Марусі — калісьці даўно прывёз аднекуль з Закарпацця і падарыў дарагой жонцы ў гонар нараджэння доўгачаканага першынца.

Кум Іван баяўся павярушыць нават пальцам левай нагі, якая не ў час засвярбела, каб не спалохаць гэткае цудоўнае і велічнае відовішча, якое раптоўным і цудадзейным чынам вярнула яго да жыцця. Аднак ён цяпер добра ўсведамляў, што калі нейкім хітрым чынам зараз жа не авалодае жаданым штофам, дык не пазней як заўтра ўвечары абавязкова далучыцца да свайго былога суседа і сябра… Кумавы мазгі працавалі хутчэй за самы магутны камп'ютар Амерыкі, але… рашэнне ніяк не прыходзіла, бо перад нашым стратэгам паўстала задача куды складанейшая за задачу Цэзара перад Рубіконам…

І хоць кум Іван быў не з баязлівага дзясятка, а ў маладосці мог адным ударам кулака зваліць кожнага хлопца з суседняй вёскі, грандыёзнасць пастаўленай задачы і яе практычная невырашальнасць зноў вярнулі яго ў ступар. Але… ненадоўга. Бо ён добра памятаў дэвіз сваіх продкаў-талкавінаў: «Той, хто гатовы перамагчы ці памерці, рэдка церпіць паразу!».

Нарэшце кума парабіла ўсе справы, пайшла ў хату, наліла ў сподачак з вялікага глінянага збана — «глэчика» — ранішняе малако і паклікала з печкі вялікага пушыстага ката Ваську. І толькі пасля гэтага дазволіла сабе сесці на накрытую саматканым дыванком — «кандрэлом» — старасвецкую дубовую лаўку, якую яна атрымала ў спадчыну ад бабулі. Маруся папраўліла лампадку перад іконай Святога Георгія, запусціла пальцы ў пухнатую поўсць Ваські, які якраз узяўся муркаць, і летуценна зірнула праз шыбу на свае пафарбаваныя вароты.

Пад бязладны хор сваіх думак кума Маруся незаўважна для сябе заснула… Пабудзіў яе настойлівы стук у дзверы. На парозе замест прыгожага воя ў бліскучых даспехах стаяў сусед — кум Іван.

— Добрый дэнь, кума! — прамовіў кум, «щеро» пасміхаючыся — голас муркаў, як у ката Ваські.

— Добрэ здороувля, кум! — адказала па-сяброўску кума, хоць, шчыра кажучы, яна хацела паслаць яго куды падалей, але асеклася, своечасова ўспамінаючы, які сёння святы дзень.

— Чи нэ можно зайтэ, кума? — ласкава, але вельмі настойліва «прамуркаў» Іван. Ён быў цвярозы, як вада ў вядры, і кума, не знаходзячы важкіх падстаў, каб запярэчыць, дазволіла суседу прасунуцца ў светлыя сенцы, а тады і ў хату. Аглядаючы пільным вокам пакой, цалкам добрапрыстойна пераждагнаўшыся на абразы, кум важна, па-гаспадарску, сеў на крэсла, што асцярожна падсунула Маруся.

— Яка Вы гарна хозяйка!.. — адзначаў кум Іван. — И хата ву чеснотии, и хозяйство добрэ!.. — салодкім голасам працягваў ён, нібыта адразу аглядаў і дом, і пуню, і быка Ромку, і ўвесь гарод — ад плота да плота.

Нечакана для сябе кума выявіла, што відавочная і наўмысная, як ёй падалося, ліслівасць кума не такая ўжо і непрыемная…

— И сама вы, кума, ще жинка крэпка та файна!.. И солодка… як та грушка ву майским мэди!.. — працягваў кум, гледзячы ласымі вачыма на Марусю.

Нягледзячы на ўсё ўзрастаючы недавер да тырадаў суседа, кума ўсё ж такі трошкі палагаднела і дазволіла сабе сесці побач. Кум працягваў… Аднак праз некаторы час ён памяняў танальнасць і перайшоў на ўласную няшчасную асобу… Ён гаварыў пра адзіноту, пра тое, як цяжка жывецца без нябожчыцы жонкі Ніны. І, нарэшце, распавёў пра ўчарашні дзень і сённяшнюю ноч, калі, па яго словах, ён ледзь не памёр, аднак пры гэтым не сказаў пра сапраўдную прычыну гора, якое ледзь не напаткала яго.

— І вось, кума, ляжу я… паміраю… і бачу… Адчыняюцца дзверы і ўваходзіць… хто б вы думалі?.. — мая нябожчыца жонка Ніна! — «загнуў» кум, вырачыўшы вочы і склаўшы рукі крыжам, нібыта зноў ляжаў на сваёй лаўцы ў «куморы». — І… так жаласна на мяне глядзіць… і кажа…

Маруся тройчы пераждагналася, не адводзячы вачэй ад расчырванелага твару кума.

— І… вось… яна кажа… мая нябожчыца… — насядаў кум, свідруючы вогненным позіркам суседку. — Який же ты биднэй!.. Який же ты слабэй! И ныма кому тэбэ пожалитэ!!! Мий роднэй!.. Мий любый!

Кум змахнуў скупую слязу і абхапіў сваю сівую галаву, нібыта зноў бачыў замагільны свет з усімі яго насельнікамі. Засвярбела вока і ў Марусі, але яна баялася варухнуцца, каб не парушыць містычную шчырасць суседа.

— И заплакаув я!.. и заголосэув я!.. И став я скажэтыса мои Нини на свою жизнь нэщасну та паршэвый мий вик… — галасіў кум. — И став я просэты мою любу, шобы вона забрала мэнэ до сэбэ — на той свит!.. — працягваў далей кум, які цалкам аддаўся сваёй ролі.

Кума ўбачыла, што чалавек зусім расхваляваўся, пабегла ў суседні пакой — «вэлэку хату», прынесла той самы зялёны штоф і паставіла яго на стол. Выцягнула з разной шафкі — «мэсныка» — двухсотграмовы «гранчак», наліла, не праліваючы ні кроплі, і паднесла Івану, які ўсё ўсхліпваў.

З вачэй кума нарэшце паліўся паток непадробных слёз, але ён здолеў спытаць: «А вы, кума?..» З'явіўся другі «гранчак», і кума, якая ўжо зусім расчулілася, далучылася да рыданняў суседа.

Кум Іван, не марнуючы часу, працягваў:

— І прашу я маю дарагую, каб узяла яна мяне да сябе — на той свет!.. І ведаеш, што яна мне сказала?.. — аддана гледзячы ў Марусіны вочы, шэптам спытаў кум.

— Шо, кумэ?.. — заікаючыся, перапытала Маруся, трымаючы ў адразу аслабелых пальцах зноў напоўнены «гранчак».

— И кажэ вона… — замагільным голасам прадракаў кум. — Идэ, мий любэй, до кумы Маруси, и жэйты як чулувик с жинкою до кинца ваших днив!.. Бо така моя и Бога воля!!! — уздымаючы ўказальны палец, значна і неабвержна заключыў кум.

Кума папярхнулася сваёй жа «бурачанкай» і доўга не магла адкашляцца.

— Чи цэ правда, кумэ?.. Чи цэ можэ таке бутэ?! — перапытала яна, жаласна гледзячы ў вочы суседа.

— И… правда!.. И було, и так будэ!.. Бо на цэ — Божа воля… и воля мои Нины!.. — грозна прамовіў кум тонам, які не пераносіць пярэчанняў, і сам сабе наліў чарговую чарку з пузатага штофа.

«Божа мой!.. — падумала кума. — І чаго толькі не бывае на белым свеце?! Цудоўныя, сапраўды, Справы Твае, Госпадзі!..» Трэба сказаць, што ў маладосці яна не засталася абыякавай да вясёлага хлопца Івана, прыгажэйшага і лепшага за ўсіх. Яго чорныя бровы і блакітныя вочы пры сустрэчы кідалі, як кажуць русіны, «ву густу краску» і без таго ружовашчокую «диучину» Маруську. Першай прызнацца ў каханні тады было сорамна і не модна, а парубак Іванко, спешчаны ўвагай дзяўчат, сам не спяшаўся. Аднак і Маруська гэта добра ведала, прыгажун Ванюшка таксама не быў да яе зусім абыякавы… Калі на вечарніцах ён пускаўся з ёю ў скокі, яна адчувала, што сэрца яго таксама не толькі ад тых каленцаў, што ён вырабляў… І хто яго ведае, што б у іх там атрымалася, каб не ўвішная Ніначка з суседняй вуліцы, смялейшая і спрытнейшая за сціплую Маруську?.. Усё жыццё яны пражылі з суседкай у міры і згодзе, разам хрысцілі дзяцей, разам хавалі памерлых, аднак нейкі холад між імі — след юнацкіх жарсцяў — захоўваўся заўсёды… І вось цяпер сама кума Ніна, ды яшчэ з «того свиту», жадае і патрабуе, каб яны з кумам Іванам жылі разам! Дзіва, што Маруська зусім збянтэжылася.

Пераканаўшыся, «шо кума вужэ готова» — як кажуць русіны, кум Іван раптам перарваў шчырыя выказванні пачуццяў, у жаху адхіснуўся ад прадмета гарачай любові і пачаў тыцкаць дрыжачым пальцам у шыбу, а вішчэў як вялізны вяпрук, якога забівае нявопытны жывадзёр:

— Божэ поможэ!.. Бачу!.. Бачу!..

— Шо? Шо, кумэ, Вы бачитэ?.. — разгубілася Маруся.

— Вой!.. Вой, кума! Бачу! Бачу! — ляманатаваў кум, па-ранейшаму тыцкаючы пальцам у вакно.

— Моя Нина з Вашэм Пэтром!.. На нэби! Тай дэувлятца на нас! Божэ!.. Божэ!.. И таки сэрдэти!

— А чо?.. А чо сэрдэти?.. — паўшэптам спытала спалоханая кума, якая ўжо зусім здурнела ад самагонкі і такіх нечаканых падзей.

— Як чо?.. — гаркнуў на яе хітры кум. — Як чо?!. Бо гришэмо!.. Та ще ву Святэй Дэнь! — зароў кум. — Дэвитэся сами!.. — і нервова тыцкаў пальцам у шыбу.

Кума ўжо і сама паспрабавала ацаніць тое, што адбываецца, і пачала ўглядацца мутнымі вачыма ў шэрыя хмары, што імкліва насоўваліся на чырвань вечаровага сонца. Ёй таксама памроіўся нябожчык-муж Пятро, які з неба пагражаў кулаком у прыступе раўнівай злосці, а таксама нябожчыца суседка Ніна — раззлаваная як чорт, тая размахвала вялікай патэльняй. Куме зрабілася сорамна, таму яна павалілася на калені, аж затрашчала дубовая падлога.

Правільна ацэньваючы важнасць і непаўторнасць моманту, кум Іван схапіў за горла пузатую бутэльку і… толькі яго і бачылі…

А кума Маруся білася аб ні ў чым не вінаватыя сцены, нікога і нічога не заўважаючы, наўзрыд прасілы даравацв Бога, усіх святых і ўсіх памерлых адразу! Толькі ўначы, калі трохі выйшаў хмель, яна сяк-так супакоілася і падумала: «Божа!.. Якія ж пераборлівыя гэтыя нябожчыкі!.. І паспрабуй зразумець іх! То самі кажуць, каб мы жылі з кумам разам, то раптам раўніва пагражаюць з неба!» — І падсумавала: «Неспасцігальныя Шляхі Твае, Госпадзі!». Пераждагналася апошні раз і… заснула…

Толькі апоўдні Маруся выявіла, што закарпацкі падарунак яе Пятра знік разам з усім, што там было! Гнеў яе загарэўся, як газетная папера, намочаная самагонкай, бо нарэшце яна зразумела і ацаніла вераломнасць і беспрэцэдэнтную нахабнасць Іванавай задумы.

— Шоб тэбэ чортэ побралэ!.. Шоб тэбэ боги побэлы! Шоб тэбэ воувки пирвалэ!.. Шоб тэбэ псэ таскалы! — успамінала Маруся суседа палкім словам, трасучы кулакамі, якім мог бы пазайздросціць сам Траян…

Раптам на самай высокай ноце яе перарваў баязлівы, але выразны стук у дзверы. На парозе стаяў, нервова пераступаючы з нагі на нагу… дарагі кум Іван!.. Не даючы куме ачомацца і пусціць у ход свае магутныя далоні, сусед працягнуў ёй напалову спустошаны штоф і, заікаючыся, прамовіў:

— Вы… Вы… кума… забулы… цэ… вчера…

Кума хацела выбухнуць як тая бомба, змятаючы адной ударнай хваляй і суседа з праклятай бутэлькай, і сцены, што ціснулі яе, і рыпуча-падманныя дзверы. Але зірнула ў вочы Івана-Ванюшкі і раптам зразумела, што не павінны нябожчыкі, хоць і родныя, лезці ў сардэчныя справы жывых… Яна ўзяла ў абдымкі, як малое дзіця, пацярпелы штоф, а тады ціхім голасам з даўно забытай інтанацыяй мовіла:

— Дзякуй, кумэ… Заходьтэ… не хочитэ пропустэтэ чарачку?..

— Дзякуй, кума!.. — з палёгкай уздыхнуў кум. — А чо бы й не?.. — і асцярожна, бачком, не адводзячы вачэй ад прыгожых аксамітавых вачэй кумы, прапхнуўся ў пацяплелую хату…

А ў дупле старога каштана паранейшаму бесклапотна верашчалі маленькія шпакі. Клапатлівыя ластаўкі ўжо амаль збудавалі гняздо. А ў сінім майскім небе клубілася вялікае, падобнае да вершніка з дзідай, белае, як тапалевы пух, воблака.

**Пераклад з рускай мовы Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

# Цвіце мэйхуа. Гісторыя аднаго перакладу

**З мастацкімі творамі кітайскіх пісьменнікаў я пазнаёміўся ўпершыню ў дзесяцігадовым узросце: якраз тады, у 1957-м, у перакладах на беларускую мову выйшлі «Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў», аповесці Ван Лі-і «Сталь» і Маа Дуня «Вясеннія шаўкапрады», зборнік «Кітайскія народныя казкі». Пра Кітай многа згадвалася ў газетах і часопісах, па радыё, а ў крамах прадаваліся кітайскія тавары (асабліва ў пашане былі тэрмасы, прыгожа размаляваныя, зграбныя). У вёскі прывозілі кітайскія фільмы.**

Потым сувязі перапыніліся, але цікавасць да кітайскай культуры не згасла, хоць падтрымліваць яе стала цяжэй. Узяць пераклады. Нават на рускую мову перакладалася ў той перыяд выключна кітайская класіка, а калі звярнуцца да перакладаў на беларускую, можна заўважыць, што рабіліся яны ад выпадку да выпадку і звязаныя былі часцей за ўсё з юбілеямі кітайскіх пісьменнікаў. Цэласнае ўяўленне пра гісторыю кітайскай літаратуры мелі хіба што студэнты філалагічных факультэтаў, якія чыталі тэксты ў перакладах на рускую мову.

Калі выкладаць замежную літаратуру сталі, нарэшце, па-беларуску, перад студэнтамі паўстала новая праблема. Нямногія пераклады ранейшых часоў так і засталіся на старонках перыёдыкі, і студэнтам іх ніхто не рэкамендаваў. Паасобныя творы кітайскіх пісьменнікаў перакладалі М. Танк, М. Аўрамчык, У. Дубоўка, В. Вітка, А. Русецкі, С. Дзяргай, А. Бачыла, К. Кірэенка, С. Міхальчук. Нізку вершаў кітайскага паэта Ду Фу пераклаў Янка Сіпакоў. Перакладаліся нават раманы: «Сонца над ракой Сангань» Дзін Ліна, «Перад світаннем» Маа Дуня, «Ураган» Чжоу Лі Бо. Перакладзена даволі многа ўзораў кітайскага фальклору — пераважна байкі і казкі.

Перакладалася беларуская літаратура на кітайскую мову досыць актыўна нават у час непрыхільных адносін СССР да Кітая. Выдаваліся творы самых вядомых у тыя часы беларускіх пісьменнікаў — І. Мележа, І. Шамякіна, В. Быкава, І. Навуменкі. З нашага ж боку панавала маўчанне.

Сёння сувязі аднаўляюцца. Беларускія турысты наведваюць Кітай, кітайскія студэнты навучаюцца ў нас, мы вывучаем кітайскую мову і літаратуру. І трэба спадзявацца, што творы кітайскіх пісьменнікаў зацікавяць нашых перакладчыкаў. Добры пачатак пакладзены: Мікола Мятліцкі пераклаў вершы ста кітайскіх паэтаў, якія склалі кнігу «Пад крыламі Дракона» (Выдавецкі дом «Звязда»). Выдадзена яна ў 2012 годзе, які па ўсходнім календары лічыўся годам Дракона, так што ў назве зборніка закладзена і пэўная сімволіка.

Мікола Мятліцкі не хаваў таго, што кітайскай мовы не ведае — і перакладаў з рускіх вершаваных перакладаў і з падрадкоўнікаў. Але за пераклад ён узяўся толькі пасля знаёмства з гісторыяй Кітая, яго культурай, гісторыяй кітайскай мастацкай літаратуры. Да таго ж у паэта ўжо быў за плячыма вопыт перакладу ўсходняй лірыкі. Жаданне пазнаёміць з кітайскай паэзіяй беларускага чытача ў больш звязным, паслядоўным прачытанні перасіліла боязь перад нязвыклым і экзатычным.

Валянціна Аколава зацікавілася паэзіяй Лі Цінчжаа, пачала перакладаць яе вершы, але заўчасная смерць перапыніла гэтую працу.

Да перакладаў з кітайскай мовы пачалі далучацца студэнты БДУ, якія займаюцца на адносна новым для філалагічнага факультэта аддзяленні ўсходняй філалогіі.

Якія ж цяжкасці сустракаюцца пры перакладах з кітайскай мовы на народнасныя ёй рускую і беларускую? На працягу свайго існавання кітайская паэзія назапасіла безліч паэтычных вобразаў, якія традыцыйна адштурхоўваюцца ад рознага роду гістарычных, літаратурных сюжэтаў, а таксама ад легенд, казак, паданняў. Пра складанасць і разнастайнасць вобразнай сістэмы сведчаць выдадзеныя ў Кітаі за апошнія два дзесяцігоддзі тоўстыя тамы з назвамі кшталту «Паэтычная вобразнасць у старажытнай паэзіі і прозе», «Паэтычная вобразнасць у паэзіі перыяду Тан», «Паэтычная вобразнасць у жанчын-паэтак», «Паэтычная вобразнасць у вершах цы перыяду Сун». У гэтых кнігах прыводзяцца творы, для разумення якіх нават сучаснаму кітайскаму чытачу неабходныя тлумачэнні. Даюцца яны ў аб'ёме, які ў шмат разоў пераўзыходзіць мастацкі тэкст. Сюды ўключаюцца ўсе звесткі, неабходныя чытачу: факты з жыцця паэта, якія адбіліся ў дадзеным вершы ці паслужылі падставай для яго напісання; звесткі пра гістарычныя акалічнасці таго часу; алюзіі і рэмінісцэнцыі, веданне якіх неабходна для разумення зместу; агульная сувязь частак твора, часта не цалкам зразумелая чытачу, і многае іншае.

Аўтар гэтых радкоў па просьбе студэнткі аддзялення ўсходняй філалогіі Марыны Мікшань, якая пісала курсавую работу па творчасці Лі Цінчжаа, паспрабаваў, не зазіраючы ў рускі пераклад, толькі на аснове падрадкоўніка перакласці адзін з вершаў названай кітайскай паэтэсы, якая жыла ў 1084 — 1151 гадах.

Раннія вершы Лі Цінчжаа звычайна не выходзяць за рамкі апісання прыроды і асабістых перажыванняў. Страфу за страфой паэтэса даверліва раскрывае ўнутраны свет жанчыны. У яе вершах выразна бачныя горыч асабістых страт, смутак, трывога за лёс радзімы.

Навошта пра ўсё гэта ведаць перакладчыку? Ён жа ўзяўся за перастварэнне толькі аднаго верша! Тым не менш у ім і водгалас перажытага паэтэсай. Верш «Дзікая сліва» (Мэйхуа), абраны для перакладу, напісаны якраз у выгнанні, і ў ім адбіўся настрой, які тады валодаў аўтаркай. Вось ён, гэты верш, у арыгінале:

《玉楼春》
红酥肯放琼苞碎，
探著南枝开遍未，
不知蕴藉几多香，
但见包藏无限意。
道人憔悴春窗底，
闷损阑干愁不倚，
要来小酌便来休，
未必明朝风不起。

Як быццам толькі пра дзікую сліву... Я даведаўся, што вобраз галінкі дзікай слівы спрадвеку адзін з улюбёных традыцыйных вобразаў кітайскіх паэтаў, асабліва ў часы эпохі Сун, да якой адносяцца і гады жыцця Лі Цінчжаа. Мэйхуа — разнавіднасць кітайскай слівы, дрэва, якое ўслаўлена ў жывапісе і паэзіі. Яно пачынае квітнець у канцы зімы, калі яшчэ ляжыць снег. Перыяд цвіцення мэйхуа (са студзеня да канца сакавіка) прыпадае на час кітайскага Новага года, які па кітайскім календары называецца «Свята вясны». Красаванне дэкаратыўнай слівы «мэйхуа» ў кітайцаў звязваецца з канцом зімы і надыходам вясны.


Лі Цінчжаа.

Таму мэйхуа — гэта каляндарнае дрэва, сімвал і эмблема кітайскага Новага года, вясны і нараджэння ўсяго жывога. Адначасова яе назва аманімічная ў кітайскай мове словам «прыгажосць» і «бровы», якім надавалася асаблівае значэнне ў абліччы прыгажуні, што яшчэ больш узмацніла асацыяцыі гэтага дрэва і яго колераў з жаночай прыгажосцю, юнацкасцю і пачуццём кахання.

Усяго гэтага чытач, не знаёмы з кітайскай культурай, не ведае, а таму асацыяцыі, якія ўзнікаюць падчас чытання верша ў кітайца, для яго застануцца неўсвядомленымі. Кітайская культура, у адрозненне ад японскай, напрыклад, у нашых чытачоў менш «на слыху».

Перад тым, як перакладаць, карысна даведацца і пра асаблівасці формы кітайскіх вершаў, згадаць, прынамсі, што ў кітайскай паэзіі меншы рыфмарый, у мове — мала сугучнаў у канцы слоў, таму не ва ўсіх радках маецца рыфма.

Разам з Марынай я паспрабаваў разабрацца ў падрадкоўніку, прасачыць, што стаіць за радкамі.

Верш «玉楼春» («Мэйхуа», «Дзікая сліва») адносіцца да тых, што па-майстэрску апяваюць не толькі прыроду, але і тонка перадаюць унутраны свет паэтэсы, яе душэўныя пакуты, сведчыць пра надзею на спакой і жаночае шчасце.

У першым вершаваным радку «红酥肯放琼苞碎» іерогліф «红酥» (румяны) увасабляе пялёсткі кветак слівы, якія падобныя да чырвонай гладкай скуры, а ў іерогліфах «琼苞» (яшмавы бутон) згадваецца чырвоны бутон слівы. У абодвух параўнаннях вобразна перададзеная асаблівасць кветак слівы, і сама фармуліроўка вельмі дасціпная. Метафара «нераскрыты бутон» мае на ўвазе дзяўчыну.

Другі радок «探著南枝开遍未» — гэта алегарычнае ўвасабленне не расквечаных яшчэ бутонаў слівы.

Трэці «不知蕴藉几多香» і чацвёрты «但见包藏无限意»радкі блізкія па сэнсе. Іерогліфы «蕴藉» (вытрымка, стрыманасць), «包藏» (хаваць, утойваць) удакладняюць тую ж думку. А спалучэнні «几多香» (вельмі духмяны), «无限意» (бязмежны водар) нагадваюць пра духмянасць кветак слівы пасля буйнога росквіту.

Першыя чатыры радкі перадаюць духоўны настрой, эмацыянальны стан паэтэсы. У наступных апісваецца яе любаванне кветкамі слівы. «道人» (успамін пра даоскага манаха) — гэтая згадка, магчыма, гаворыць пра цікавасць паэтэсы да філасофіі даасізму, але можа і ў форме алюзіі нагадваць, што заснавальнік даасізму Лаа Цзы нарадзіўся менавіта пад слівай і ў дзяцінстве ў яго была мянушка Сліва. Іерогліфы «憔悴» (марнець, пакутаваць), «愁» (сум, маркота) тлумачаць паводзіны і ўнутраны стан Лі Цінчжаа. «春窗» (глядзець у акно), «阑干» (ліць слёзы) — гэта водгалас жыццёвых абставін самой паэтэсы: яе маркотнае жыццё, самотнае існаванне жанчыны, якая страціла каханне, сям'ю і радзіму.

У апошніх радках Лі Цінчжаа адлюстравала трагедыю свайго жыцця. Радкі верша «但见包藏无限意, 道人憔悴春窗底», напісаныя Лі Цінчжаа ў незвычайнай манеры, перадаюць яе душэўныя пакуты, неспакой і калі яна любуецца кветкамі сліў. А ў радках «要来小酌便来休，未必明朝风不起» іерогліф «休» — «добра!», «няхай!» — перадае сардэчны стан аўтара: хто хоча прыйсці ў госці, каб палюбавацца цвіценнем слівы, то хай прыходзіць, можа быць, мы за віном будзем думаць: а раптам заўтра ўзнімецца вецер! Гэтыя радкі выказваюць і надзею на змены ў лёсе, жаданне развеяць маркоту.

І я ўзяўся за пераклад. Нарадзіўся першы варыянт, але ён не задаволіў ні мяне, ні Марыну. Заўважаліся «падпоркі», словы, якія даваліся «прыцягнуць за вушы» дзеля захавання рыфмаў, рытму. Марына падказала, што вершу не хапае мінорнага настрою, не адчуваецца ў ім тугі па радзіме, матыву адзіноты. Пасля перапрацоўкі з'явіўся другі варыянт, нечым блізкі да верлібра.

## Лі Цінчжаа

### Дзікая сліва (Мэйхуа)

*Ранняй вясной развінуцца*
*Ў садзе пялёсткамі слівы*
*Яшмы ружовай бутоны,*
*Схіляцца радасна к поўдню,*
*Туды, дзе мая радзіма.*

*Нібыта ў сад прыгажуня*
*Ў строях пунсовых прастуе.*
*Водар духмяны хвалюе,*
*Ды на душы ў мяне змрочна.*

*Стаю ля вакна я і плачу,*
*Кратаю ганка парэнчы,*
*Нібыта мніх даасійскі,*
*Змораны і маркотны.*

*Што ж! Можа, прыйдзе хто ў госці…*
*Вып'ем, закусім, з надзеяй:*
*Каб нам мэйхуа любавацца*
*Раніцай ветрык павее.*

Задавальнення зноў не было: не ўсё ўдалося перадаць адэкватна. Надта штучна далучаны радок, які тлумачыць, што Лі Цінчжаа не можа любавацца кветкамі без суму, згадаўшы, што бутоны павернуты на поўдзень, у бок страчанай радзімы. Калі б гэты пераклад друкаваўся асобна, то да яго варта было б дадаць каментарый. Вось яшчэ адна асаблівасць перакладу з кітайскай мовы — патрэба ў тлумачэннях, якія раскрываюць схаванае ў падтэксце. Ды ўсё ж не варта забываць, што верш прызначаны для дэкламацыі, а не для чытання ў кнізе, ён павінен быць зразумелы слухачам без тлумачэнняў. Акрамя таго, гэта верш-песня, напісаны на мелодыю «Юй цзя аа» («渔家傲»). Варта было б папрасіць студэнтку-кітаянку праспяваць верш, тады можна было б прывесці пераклад у адпаведнасць з мелодыяй.

Так быў набыты пэўны вопыт перакладу з кітайскай мовы. Хочацца верыць, што ён прыдасца тым, хто будзе брацца за пераклады мастацкай літаратуры з кітайскай мовы, і што кветка мэйхуа расквітнее ў беларускіх перастварэннях.

**Міхась КЕНЬКА,**
**к. ф. н., дацэнт кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта БДУ**

# Погляд з Паднябеснай

**Заўжды цікава паглядзець на рэчы даўно звыклыя чужымі вачыма, асабліва калі гэтая самая «рэч» — твая краіна, а «чужыя вочы» — вочы не проста іншага чалавека, але замежніка, чые культура і гісторыя моцна розняцца з гісторыяй і культурай тваёй краіны.**

У такім кантэксце кніга «Беларусь вачыма кітайцаў», што выйшла ў 2014 годзе ў Выдавецкім доме «Звязда», мусіць выклікаць зацікаўленасць у самага шырокага кола чытачоў, якому і адрасуецца.

«Беларусь вачыма кітайцаў» суправаджае цікавая перадгісторыя. У лістападзе 2011 года Мінск наведала кітайская дэлегацыя, узначаленая віцэ-прэзідэнтам Кітайскага фонду міжнародных даследаванняў, былым паслом КНР у Рэспубліцы Беларусь спадаром Юй Чжэньці. Падчас візіту была дасягнутая дамоўленасць з віцэ-прэм'ерам Беларусі, старшынёй таварыства дружбы «Беларусь — Кітай» Анатолем Тозікам пра выданне зборніка «Кітай вачыма беларусаў» — што спраўдзілася ўжо ў наступным годзе. Зборнік уключыў у сябе 20 артыкулаў беларускіх аўтараў — дыпламатаў, дзеячаў мастацтваў, супрацоўнікаў сферы адукацыі, журналістаў і інш. Яны распавядалі не толькі пра дыпламатычныя адносіны паміж Кітаем і Беларуссю, але і пра сваё ўспрыняцце прыродных і сацыяльных асаблівасцей Кітая, пра культуру і гісторыю Паднябеснай.

У сакавіку 2013 года Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у КНР Віктар Бура зрабіў афіцыйную заяву віцэ-прэзідэнту Кітайскага фонду міжнародных даследаванняў спадару Юй Чжэньці, дзе прапанаваў падрыхтаваць аналагічнае выданне, але гэтым разам «наадварот»: «Беларусь вачыма кітайцаў».

Так і з'явілася гэтая кніга.

Яна змяшчае артыкулы больш як 20 кітайскіх аўтараў, якія працавалі ці вучыліся ў Беларусі. Няцяжка здагадацца, што змест кнігі складаюць уражанні кітайцаў ад беларускай прыроды і саміх беларусаў, гісторыі і культуры краіны, яе грамадскага ўкладу і палітычных асаблівасцей.

Умоўна змест кнігі «Беларусь вачыма кітайцаў» можна падзяліць на дзве часткі — афіцыйна-безасабовую і асабістую. У першай кітайскія аўтары — збольшага гэта афіцыйныя асобы, прадстаўнікі Кітая ў Беларусі ці старшыні пэўных дзяржаўных стурктур — робяць экскурс у гісторыю Беларусі, апісваюць сучаснае знешняе і ўнутранае палітычнае становішча краіны. Пры гэтым нават за сухімі, афіцыйнымі зваротамі адчуваецца вялікая сімпатыя кітайскага боку да Беларусі. «Асабісты» складнік артыкулаў — непасрэдныя ўражанні кітайцаў ад Беларусі, прычым найбольш моцнымі зазвычай аказваюцца першыя думкі і пачуцці, народжаныя па прыбыцці ў «краіну тысяч азёраў», як неадназова ў кнізе называюць Беларусь. Так, спадар Юй Чжэньці, былы пасол КНР у Беларусі, узгадвае: «27 сакавіка 2002 года я ехаў з Масквы ў Мінск, каб прыступіць да выканання службовых абавязкаў. Калі да Мінску заставалася ехаць каля гадзіны, два беларускія міліцыянеры зайшлі да мяне ў купэ і ветліва пацікавіліся, ці сапраўды я кітайскі пасол. Я адразу прадставіўся. Яны пачціва прывіталі мяне і патлумачылі, што прыбылі сюды адмыслова па распараджэнні Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, каб суправаджаць мяне... Такая прадбачлівасць беларускага боку пераўзышла ўсе мае чаканні, я быў вельмі крануты. Па гэтай дасканалай падрыхтоўцы можна было судзіць пра тое, якую вялікую ўвагу беларускі бок надае майму ўступленню на пасаду, дэманстравала вялізную павагу да Кітая».

Па гэтым маленькім урыўку з успамінаў можна судзіць пра кнігу ў цэлым: кітайцы надзвычай чуйныя да нюансаў у адносінах, нават калі яны афіцыйныя; нельга не заўважыць выразы кшталту «ветліва пацікавіліся», «пачціва прывіталі», «я быў вельмі крануты». Магчыма, таму кітайскім гасцям асабліва падабаюцца ў беларусах такія рысы, як міралюбства, сціпласць, стрыманасць (якая не замінае выяўляць прыязнасць да гасцей). Кітайцаў захапляе і любоў беларусаў да мастацтва. Натуральна, судзяць яны па сталічным жыцці. Тым не менш... Чжан Ін, якая працавала ў аддзеле культуры Кітайскага Пасольства ў Беларусі, распавяла, як сустрэла аднойчы ў Вялікім тэатры незвычайную жанчыну: ёй было семдзесят гадоў, яна жыла ў гарадку пад Мінскам і кожны раз адкладала ад пенсіі грошы на квіток на «Лебядзінае возера», якое на той час жанчына пагледзела ўжо 12 разоў. Спадарыня Чжан Ін таксама адзначае, што беларусы маюць незвычайную любоў да «грыбнога» палявання і што прырода ўвогуле іграе ў нашым жыцці вялікую ролю — якую мы і самі, можа, не заўважаем. Вельмі маляўніча, з немалой доляй мастацкасці, апісалі розныя паравіны года ў Беларусі Лі Пэнбо, Ян Цінгэн, Сун Шуайшуай і Чжаа Чэнь — эканаміст, менеджар і прадстаўнікі будаўнічай карпарацыі. Беларусь яны назвалі «краінай чыстых водаў, прыгожых людзей і смачных моцных напояў».

Беларускія жанчыны ў вачах кітайцаў — вытанчаныя і прыгожыя, працалюбівыя, таленавітыя, цярплівыя, незалежныя і ўпэўненыя ў сабе, а таксама — з чаго мы і самі пакепліваем — неабыякавыя да высокіх абцасаў.

Многія турысты, якія наведвалі Мінск, ужываюць часцей за ўсё эпітэт «чыста». Тое ж кажуць і кітайцы. Так, спадар Юй Чжэньці піша: «Па дарозе [да пасольства] я быў уражаны чысцінёй і спакоем горада».

З вялікай павагай і пачціваасцю, карыстаючыся словамі спадара Юй Чжэньці, кітайцы ставяцца да ваеннага мінулага Беларусі. У сувязі з гэтым ён узгадвае гісторыю, якая не мае патрэбы ў каментарах. Так, кітайская дэлегацыя наведала Брэсцкую крэпасць. Усе былі вельмі ўражаныя, але падчас наведвання музея заўважылі адсутнасць якіх-кольвек буклетаў. Высветлілася, што ў музея фінансавыя праблемы, і тады спадар Юй Чжэньці паклапаціўся пра дапамогу музею і ад імя кітайскага пасольства перадаў аддрукаваныя буклеты. «З тых часоў я заўжды нашу з сабой адзін з тых буклетаў, а надрукаваныя ў ім фотаздымкі Брэсцкай крэпасці і музейных экспанатаў выклікаюць у мяне цёплыя пачуцці і ўспаміны пра тыя незабыўныя дні, калі я наведаў Крэпасць».

Беларускага чытача можа здзівіць, як не саромеюцца раскрываць свае пачуцці афіцыйныя асобы, як непасрэдна і шчыра дзеляцца яны сваімі ўражаннямі. Тут дарэчы працытаваць яшчэ адзін урывак з успамінаў спадара Юй Чжэньці.

Падчас афіцыйнага візіту ў Полацк ён вырашыў пабачыць нашую Сафію. «Як толькі развіднела, я ў суправаджэнні майго спадарожніка паехаў на процілеглы бераг ракі. На тым беразе не было сцяжынкі, трава была пакрытая расой, штаны ў мяне вымаклі, але я ўвогуле не звяртаў на гэта ўвагі. Я стаяў на беразе, глядзеў на спакойную плынь ракі, на белы Сафійскі сабор, у святле ранішняй зары падобны да прыўкраснай і чыстай дзяўчыны, што ціха стаіць на беразе. Я глядзеў на яе і яе прыгожае адлюстраванне ў вадзе, і сэрца поўнілася невымоўным пачуццём хараства. Толькі тады я па-сапраўднаму зразумеў, што гэты сабор — як яго




форма, так і яго змест — гэта сімвал беларускай нацыі». Дома ў пасла цяпер вісіць фотаздымак Сафіі.

Сярод іншых славутасцей Беларусі, якія ўражваюць кітайцаў, — Белавежская пушча і іншыя запаведнікі, Заслаўе, Курган Славы, Вязынка, Мір, Нясвіж, Навагрудак, старыя забудовы ў Віцебску, Гродне, Магілёве і Гомелі, Хатынь, Дзяржынская гара, Браслаўскія азёры...

Ван Сяньцзюй, былы журналіст і саветнік Пасольства КНР у Беларусі, прызнае, што многія ў Кітаі не ведаюць пра Беларусь, блытаючы яе з Расіяй, а беларусаў — з «белымі» расійскімі эмігрантамі. Саму краіну ён называе «белай» і «зялёнай», што, на яго думку, сімвалізуе чысціню краіны — літаральную і метафарычную — і пышнасць прыроды (ці не ўсе аўтары згадваюць, што лясы ў нас займаюць больш за 30% тэрыторыі). Адзначае ён і асаблівасці мовы, піша, што па-беларуску размаўляюць у вёсках, а ў горадзе — рэдка, хоць насамрэч якраз у горадзе набывае ўсё большае пашырэнне літаратурная беларуская мова, а ў вёсках карыстаюцца дыялектамі ці «трасянкай».

Укладальнікі кнігі «Беларусь вачыма кітайцаў» зазначылі, што выданне мае асаблівую ролю ў развіцці сяброўства двух народаў на сучасным этапе, што, безумоўна, слушна, але асабліва цікавай кніга будзе для беларускага чытача.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Светлыя знакі

**Перакладаць паэзію вельмі складана, бо акрамя формы важна захаваць вобраз, саму паэзію, тое няўлоўнае, што штучна стварыць немагчыма. Тым больш складана перакладаць кітайскую паэзію.**

І, тым не менш, беларускія перакладчыкі не здаюцца. Пра іх творчую мужнасць сведчаць кнігі, што выходзілі цягам апошніх гадоў, і асаблівую ўвагу прыцягваюць дзве з іх — «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая» і «Лі Бай. Сто выбраных лірык». Абедзве выйшлі ў 2012 годзе. Але на гэтым пабенства заканчваецца.

Зборнік «Пад крыламі Дракона» выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда». Працаваў над кнігай паэт Мікола Мятліцкі. Акрамя ўласна перакладніцкай справы (з падрадкоўнікаў), ён правёў працу ўкладальніка, абраўшы сто кітайскіх паэтаў, пачынаючы ад IV стагоддзя да нашай эры і заканчваючы сучаснасцю. Такім чынам, беларускі чытач атрымаў міні-анталогію кітайскай паэзіі, праз якую можна прасачыць і гісторыю краіны. Акрамя вершаў, кніга змяшчае маляўнічыя рэпрадукцыі карцін кітайскіх мастакоў (шкада, што без подпісаў) і гравюры, а само выданне можна лічыць удалым прыкладам кніжнага мастацтва.

Зборнік вершаў Лі Бая выдадзены «Мастацкай літаратурай» больш сціпла, але паэзію таксама суправаджае кітайскі жывапіс. Адметнасць кнігі ў іншым: перакладчыкам выступіў носьбіт мовы, выкладчык БДУ Лі Цзо, што міжволі выклікае большы давер да перакладаў (рускамоўных, дарэчы). Кожны верш прыводзіцца таксама на мове арыгінала.

Лі Бай нарадзіўся ў 710 годзе ў горадзе Суй-іе. Яго бацька быў заможным, таму дзяцінства паэта прайшло бясклапотна, і хлопчык меў магчымасць чытаць рэдкія кнігі і атрымаць усебаковую адукацыю. У 25 гадоў Лі Бай выправіўся ў падарожжа па Кітаі. Натхнёны прыродай, ён пачаў пісаць вершы, і ўжо раннія яго творы атрымалі вялікую папулярнасць. Імператар выклікаў яго ў свой палац, і ў 742 годзе Лі Бай стаў прыдворным паэтам. Аднак ён не мог спакойна ставіцца да жорсткасці імператара да людзей небагатых, «не шляхетных», кажучы па-нашаму, і ўрэшце яго незадаволенасць скончылася выгнаннем з краіны, пасля чаго Лі Бай зноў вандраваў па краіне. Узяўшы ўдзел у бунце, скіраваным супраць уладаў, ён быў схоплены, асуджаны на пакаранне, але затым пасаджаны ў турму і ўрэшце высланы ў далёкі край Елан. Волю ён атрымаў толькі ў 59-гадовым узросце. Лі Бай зноў намерваўся змагацца за лепшы лёс краіны, але па дарозе да паўстанцаў захварэў і памёр. Аднак







існуе іншая версія смерці паэта: нападпітку Лі Бай захацеў падняць месяц, што адлюстроўваўся ў вадзе, але патануў сам. Перакладчык Лі Цзо адзначае, што Лі Бай заўжды надаваў у сваіх вершах шмат увагі бядноце, пакутам людзей, ставячыся да іх з бясконцым спачуваннем. Героямі яго вершаў былі сяляне, рамеснікі і салдаты — і, канечне ж, прырода.

На гэтым пераклады кітайскай паэзіі не заканчваюцца. Сёлета, напрыклад, выходзіць цэлая серыя кніг «Светлыя знакі: паэты Кітая» ў Выдавецкім доме «Звязда» — зборнікі вершаў Ван Вэя, Лі Бо, Ду Фу і Ай Ціна.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Кітаістыка на філфаку БДУ: «грунтоўна і назаўсёды»

У духоўнай скарбніцы чалавецтва культура Кітая, надзвычай багатая і адметная, займае месца, якое цяжка пераацаніць. Пазнанне свайго і іншанацыянальнага ў параўнанні і вывучэнні, павага да гісторыі, разнастайных традыцый той ці іншай краіны дапамагаюць весці канструктыўны, вольны ад стэрэатыпаў дыялог, адпаведны запатрабаванням XXI стагоддзя, а таксама выбудоўваць партнёрскія ўзаемаадносіны. На сучасным этапе ў Беларусі назіраецца актывізацыя міжнароднага супрацоўніцтва з Кітайскай Народнай Рэспублікай па ўсіх напрамках: эканамічным, грамадска-культурным, адукацыйным, што абумоўлівае значную патрэбу ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных і кампетэнтных спецыялістаў. Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у гэтай справе выконвае пачэсную і адказную місію, рыхтуючы кадры для розных галін вытворчасці, навукі і адукацыі.

Валоданне замежнымі мовамі з улікам спецыфікі дзейнасці — найважнейшы сродак падтрымкі і пашырэння сацыяльных, эканамічных і культурных сувязей з іншымі краінамі, таксама — руху дасягненняў беларускай навукі, тэхнікі, вытворчасці на сусветнай арэне. Асабліву актуальнасць у такім кантэксце набывае навучанне кітайскай мове, літаратуры і культуры. Гэта дазваляе павысіць канкурэнтаздольнасць спецыялістаў, выпускнікоў устаноў вышэйшай адукацыі нашай краіны, іх мабільнасць у наладжванні новых партнёрскіх стасункаў.

На філалагічным факультэце БДУ пачынаючы з 2001 года навучаюць студэнтаў па спецыяльнасці «Усходняя (кітайская) філалогія», якія атрымліваюць кваліфікацыю «Філолаг. Выкладчык кітайскай мовы і літаратуры, англійскай мовы. Перакладчык». Падрыхтоўка кадраў па гэтай спецыяльнасці вырашае адразу некалькі важных задач. Па-першае, забяспечвае зменлівы рынак працы высокаадукаванымі работнікамі. Па-другое, мусіць задаволіць запатрабаванасць у перакладчыках і выкладчыках кітайскай мовы, што абумоўлена актыўнымі сувязямі Беларусі і Кітая.

Сучаснае жыццё вылучае прыярытэты ў адукацыйнай парадыгме: не проста веданне фактаў, не ўменні і навыкі як такія, а здольнасць выкарыстаць, прымяніць набытае; не аб'ём інфармацыі, а ўменне атрымліваць яе і мадэліраваць; не пасіўнае выкарыстанне, а стварэнне і супрацоўніцтва, улік і развіццё індывідуальнасці. Менавіта такія прынцыпы і імкнецца рэалізаваць прафесарска-выкладчыцкі склад у аддзялення «Усходняя (кітайская) філалогія».

Першы выпуск студэнтаў-кітаістаў адбыўся ў 2006 годзе, другі — ў 2011-м. Пачынаючы з 2006 года БДУ штогод набірае абітурыентаў на новую цікавую спецыяльнасць. Выпускнікі вельмі запатрабаваныя і працуюць у гандлёва-прамысловых прадстаўніцтвах, консульствах, установах адукацыі рознага тыпу, дзяржаўных і прыватных прадпрыемствах.

Рыхтуе такіх спецыялістаў кафедра кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта, перастворавая ў 2011 годзе з агульнаўніверсітэцкай кафедры кітаязнаўства пры Рэспубліканскім інстытуце імя Канфуцыя. Са студэнтамі працуюць і выкладчыкі з КНР, якія адкрываюць тонкасці кітайскай мовы. Вывучаюць студэнты-кітаісты гісторыю кітайскай і замежнай літаратуры, лінгвакраіназнаўства, гісторыю культуры Кітая, усходнюю міфалогію, тэорыю і практыку перакладу, міжкультурную камунікацыю і іншыя дысцыпліны.

Значную падтрымку беларускім студэнтам-кітаістам аказваюць Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі, Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя. Для навучання кітайскай мове на філалагічным факультэце функцыянуе спецыялізаваны лінгафонны кабінет, абсталяваны за кошт кітайскага боку сучаснай камп'ютарнай, аўдыя- і відэатэхнікай. Пры падтрымцы КНР набыты слоўнікі, энцыклапедычныя даведнікі, падручнікі, дапаможнікі па кітайскай мове і літаратуры. Думаецца, у будучым такое супрацоўніцтва дазволіць максімальна задаволіць патрэбы вучэбнага працэсу.



Верш на кітайскай мове ў кабінеце-музеі беларускай культуры чытае студэнтка 3 курса Наста Маркевіч.

Акрамя насычаных аўдыторных заняткаў, супрацоўнікі кафедры кітайскай філалогіі наладжваюць культурныя мерапрыемствы, вечарыны, прысвечаныя традыцыям, звычаям, літаратуры і мастацтву Кітая. Студэнты праходзяць практыку (перакладчыцкую, педагагічную) на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях, якія актыўна супрацоўнічаюць з Кітаем.

Студэнты-кітаісты філалагічнага факультэта заваёўваюць прызавыя месцы ў конкурсах, фестывалях, дзе паказваюць грунтоўнае веданне гісторыі, культуры, мовы, мастацтва Кітая (напрыклад, Міжнародны конкурс «Кітайская мова — Мост»). Гэта павышае аўтарытэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і кітайскіх спецыялістаў і ў Беларусі, і за мяжой.





Пад зоркаю Скарыны: кафедра кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ.

Плённым у справе кітаістыкі нашай alma mater выдаўся 2014 год, калі святкавалася 75-годдзе з дня заснавання філалагічнага факультэта БДУ: 23 кастрычніка адбылося ўрачыстае адкрыццё мадэрнізаванага кабінета аўдыявізуальных сродкаў навучання, абсталяванага пры падтрымцы Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь (у цырымоніі прынялі ўдзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Беларусі спадар Цуй Цімін і прарэктар па вучэбнай рабоце БДУ прафесар А. В. Данільчанка). А 25 лістапада кафедра кітайскай філалогіі пры падтрымцы Пасольства КНР арганізавала і правяла Рэспубліканскі конкурс мастацкага чытання на кітайскай мове сярод студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел 18 навучэнцаў: студэнты БДУ, МДЛУ, БДЭУ, Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. У складзе журы — выкладчыкі ўстаноў вышэйшай адукацыі і прадстаўнікі Інстытутаў кітаязнаўства імя Канфуцыя, якія ацэньвалі конкурсныя выступленні па наступных крытэрыях: змястоўнасць, вербальныя паводзіны, вобразнасць, мастацкае афармленне, культуралагічны чыннік. Удзельнікі конкурсу мастацкага чытання прадэманстравалі глыбокія веды і навыкі ў галіне кітайскай мовы, літаратуры, культуры, нацыянальнага этыкету, акцёрскія і творчыя здольнасці. А студэнтка 4 курса філалагічнага факультэта БДУ Яніна Цуранава выканала ў сваім перакладзе на кітайскай мове верш Рыгора Барадуліна «Бацьку» і атрымала дыплом II ступені. Рэспубліканскі конкурс мастацкага чытання на кітайскай мове прайшоў на высокім узроўні і засведчыў вялікую цікавасць моладзі да кітайскай мовы, літаратуры і культуры.





Студэнты аддзялення ўсходняй (кітайскай) філалогіі маюць магчымасць павысіць прафесійны ўзровень па сістэме акадэмічнага абмену з шэрагам універсітэтаў КНР (Пекін, Шанхай, Далянь і інш.), а таксама з дапамогай магістарскіх праграм. Такія формы работы ўдасканальваюць моўную, краязнаўчую і культуралагічную кампетэнцыю навучэнцаў.

Нельга не ўзгадаць «Кітайскі народны ўніверсітэт», які арганізавала наша кафедра. На пасяджэннях кітайскія калегі распавядаюць пра гісторыю, культуру і традыцыі Кітая, а таксама пра магчымасці навучання беларускіх грамадзян на розных ступенях.

Кафедра кітайскай філалогіі асвойвае прыярытэтныя напрамкі навуковай і адукацыйнай дзейнасці: актуальныя праблемы выкладання кітайскай мовы і літаратуры, пытанні гісторыі і традыцыйнай культуры Кітая, кітайская мова ў сінхраніі і дыяхраніі, кітайска-ўсходнеславянскія моўныя і літаратурныя сувязі. Можна канстатаваць, што на сучасным этапе беларуская мовазнаўчая і літаратуразнаўчая кітаістыка (у чым ёсць і немалая заслуга супрацоўнікаў філалагічнага факультэта БДУ) мае пэўныя дасягненні ў даследаванні нацыянальна адметнага, спецыфічнага і ўніверсальнага, міжкультурных камунікацый, стварэння навучальнага комплексу па сіналогіі. Навукова-даследчыя намаганні студэнтаў, магістрантаў і аспірантаў знаходзяць увасабленне ў выпускных кваліфікацыйных работах, тэматыка і метадалогія даследавання якіх адпавядае самым сучасным патрабаванням.

Так, напрыклад, старшы выкладчык кафедры Ю. В. Малаткова бліскуча абараніла ў 2014 годзе кандыдацкую дысертацыю па тэме «Навучанне іерагліфічнаму пісьму студэнтаў» (першая навуковая праца па гэтым профілі) і атрымала станоўчыя водгукі з устаноў адукацыі многіх краін свету, у тым ліку ад кітайскіх калег.

Акрамя даследаванняў, прысвечаных праблемам развіцця, функцыянавання і выкладання кітайскай мовы і літаратуры, асаблівая ўвага надаецца вывучэнню ўсходнеславянска-кітайскіх культурных, моўных і літаратурных сувязей, што набывае сёння бясспрэчную прыярытэтнасць (заўважым, што факультэцкія аспіранты і магістранты даследуюць праблемы прысутнасці і функцыянавання кітайскай літаратуры ў Беларусі і адпаведна беларускай — у культурнай прасторы Кітая).

Хочацца прыгадаць і яшчэ адно «фірменнае» мерапрыемства кафедры кітайскай філалогіі — пасяджэнні навуковага «круглага стала» «Беларуска-кітайскі культурны дыялог» (першае адбылося ў сакавіку 2012 г.). У рабоце гэтых форумаў прымалі ўдзел навукоўцы, выкладчыкі, культуролагі, рэдактары газет і часопісаў, перакладчыкі з Беларусі і Кітая, а таксама сакратары Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі. Правядзенне такіх «круглых сталоў» (і гэта даказала шматгадовая практыка) садзейнічае папулярызацыі і распаўсюджванню кітайскай мовы, літаратуры і культуры ў Беларусі, а таксама партнёрскім сувязям у галіне навукі і адукацыі.

На філалагічным факультэце БДУ кітаістыка прапісалася грунтоўна і назаўсёды. Гэта прынцыповая пазіцыя кіраўніцтва ўніверсітэта, філалагічнага факультэта, якая знаходзіць паразуменне і падтрымку з боку Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаўных структур, якія спрыяюць станаўленню і развіццю кітаістыкі ў нашай краіне.

**Мікалай ХМЯЛЬНІЦКІ,**
**загадчык кафедры кітайскай філалогіі БДУ, к. ф. н., дацэнт**

# Марафон прэзентацый

**Традыцыйна Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш — выдатная магчымасць для выдаўцоў прадставіць увазе шырокай публікі і спецыялістаў галіны з розных краін свету свае самыя яркія праекты. Кнігі для прэзентацый падчас выстаўкі адбіраюцца старанна, а самі героі імпрэз імкнуцца ўразіць гледачоў, запомніцца. Мы распавядаем чытачам «Кніжнага свету», на якія праекты дзяржаўных выдавецтваў варта звярнуць асаблівую ўвагу і якія прэзентацыі абавязкова трэба наведаць.**

Выдавецтва **«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»** прэзентуе самыя яркія выданні, што не так даўно пабачылі свет. Як распавяла галоўны рэдактар установы Ларыса Языковіч, цэнтральнымі імпрэзамі стануць дзве прэзентацыі, падчас якіх будуць прадстаўлены ўнікальныя праекты. «Вялікая энцыклапедыя Вялікага тэатра Беларусі» — сучаснае выданне, што спалучае рысы класічнай энцыклапедыі і густоўна аздобленага альбома. Кніга распавядае пра асноўныя моманты гісторыі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Публіку прывабіць імпрэза, прысвечаная сумеснаму праекту выдавецтва і Нацыянальнай бібліятэкі краіны «Кніжная спадчына Беларусі». Гэта фактычна альбом-каталог, на старонках якога вядзецца гаворка пра самыя знакавыя выданні — ад старадрукаў да новых кніг, што захоўваюцца ў фондах галоўнай кніжніцы краіны. Не застанецца без увагі і тэма 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Не так даўно адмыслова да гэтай даты «БелЭн» распачала выданне кніг у асобнай тэматычнай серыі «Ніхто не забыты. Нішто не забыта». Цэлы дзень у прэзентацыйнай праграме выдавецтва будзе прысвечаны прадстаўленню кніг для дзяцей і юнацтва. Публіка пазнаёміцца з «Энцыклапедыяй для школьнікаў і студэнтаў», кнігамі серый «Гісторыя для школьнікаў», «Кніжная паліца школьніка». Сюрпрыз чакае і аматараў мінуўшчыны сталіцы: яны змогуць пабываць на прэзентацыі ўнікальнага выдання «Іх імёнамі названы… Вуліцы Мінска», дзе прадстаўлены расповеды пра больш як 500 знакавых асоб.

Выдавецтва **«Мастацкая літаратура»** таксама робіць стаўку на самыя значныя праекты апошняга часу. Прэзентацыйная праграма ўключае некалькі тэматычных дзён. Як распавёў галоўны рэдактар «Мастацкай літаратуры» Віктар Шніп, асобным блокам будуць прадстаўлены серыйныя праекты. Перадусім серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», «Нашы героі», «Наш сучаснік». Дарэчы, у межах апошняй не так даўно выйшла кніга ўспамінаў трохразовага алімпійскага чэмпіёна, легенды сусветнага спорту Аляксандра Мядзведзя. Плануецца, што на прэзентацыю завітае сам герой кнігі і правядзе аўтограф-сесію. У ліку ўнікальных праектаў выдавецтва з серыі «ЖЗЛБ» варта згадаць і выданне «Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак», на старонках якога прадстаўлены мастацкія творы, дзённікі, успаміны пра нашага выдатнага мастака і пісьменніка. У якасці укладальніка кнігі выступіў краязнаўца з Маладзечна Міхась Казлоўскі. У «Дзень бібліятэк» «Мастацкая літаратура» прадставіць кнігі, што пабачылі свет да 70-годдзя Перамогі. Гэта творы пісьменнікаў-ветэранаў, а таксама перавыданні ўжо легендарных праектаў «1418 дзён Вялікай Айчыннай вайны» і ўнікальнай кнігі, складзенай з успамінаў дзяцей, «Ніколі не забудзем». Падчас «Дня школьніка» наведвальнікам кніжнай выстаўкі прапануюць завітаць на прэзентацыі перакладаў кніг Юі Віслandэр і Свэна Нурдквіста «Мама Му будуе дамок» і «Мама Му, крумкач і Каляды». Таксама тут будуць прадстаўленыя кнігі і дыскі з радыёспектаклямі паводле беларускай класікі, што выйшлі ў серыі «Школьная бібліятэка», новы зборнік твораў для маленькіх дзетак «Зярнятка» і пераклад «Паштарскай казкі» чэшскага аўтара Карэла Чапека. Асобную ўвагу выдавецтва плануе звярнуць на Зборы твораў нашых класікаў, што ўжо выйшлі ці яшчэ працягваюць выходзіць. Публіка пазнаёміцца з 23-томным Зборам твораў Івана Шамякіна, выданне якога завершана летась, першымі сямі тамамі Збору твораў Уладзіміра Караткевіча, чатырма тамамі твораў Івана Навуменкі. Тут жа будзе прадстаўленая і ўнікальная серыя «Залатая калекцыя беларускай літаратуры», у межах якой ўжо выйшла 7 кніг.

У дні правядзення Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу выдавецтва **«Беларусь»** плануе пазнаёміць публіку з самымі знакавымі праектамі, рэалізаванымі апошнім часам. Гэта кніга кандыдата мастацтвазнаўства Барыса Лазукі «Слуцкія паясы і еўрапейскі тэкстыль XVIII ст. Малы лексікон». У выданні акцэнтуецца ўвага на назвах, паняццях і тэрмінах, якія дазволяць скласці больш поўнае ўяўленне пра феномен знакамітых слуцкіх паясоў і ацаніць іх як неад'емную частку еўрапейскага мастацтва і побытавага тэкстылю XVIII — пачатку XIX ст. Яркай і запамінальнай абяцае быць прэзентацыя даследавання доктара мастацтвазнаўства, прафесара Надзеі Высоцкай «Радзівілы. Нясвіж. Замак». Адмыслова да 70-годдзя Перамогі выдавецтва прадставіць кнігу Уладзіміра Ермаловіча «Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны (1941 — 1945)». Не застануцца без увагі маленькія чытачы. Іх чакае сустрэча з пісьменніцай і музыкантам Янінай Жабко, якая будзе прэзентаваць свае новыя кнігі «Колькі музыкі вакол», «Пра птушак і пра гнёзды», «Дзіцячае сяброўства».

Праекты **Выдавецкага дома «Беларуская навука»** вылучаюцца грунтоўнасцю і прадстаўляюць вынікі акадэмічных даследаванняў у розных галінах. Як заўважыў дырэктар установы Аляксандр Сташкевіч, асабліва вялікай папулярнасцю сярод чытачоў карыстаюцца кнігі, прысвечаныя пытанням беларускай мінуўшчыны і культуры, сацыялагічныя працы. Падчас кніжнай выстаўкі-кірмашу наведвальнікі змогуць пазнаёміцца з самымі новымі кнігамі, што пабачылі свет у «Беларускай навуцы». Плануюцца прэзентацыі другога тома праекта «Нарысы гісторыі культуры Беларусі». Гэтая частка калектыўнай працы прысвечана культуры гарадоў X — пачатку XX ст. Доктар мастацтвазнаўства Тамара Габрусь прадставіць сваю новую


*Фота Кастуся Дробава*

кнігу «Сакральнае дойлідства Беларусі: 1000-гадовая спадчына», якая выйшла на беларускай, рускай і англійскай мовах. Манахіня Васа (Вера Селівончык) распавядзе пра ўнікальнае даследаванне «Беларускія народныя паясы: тэхнікі вырабу, арнамент». Летась завяршылася выданне грунтоўнай калектыўнай працы «Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.» у 4 тамах і 6 кнігах, якая выклікала шырокі грамадскі рэзананс і вельмі хутка разышлася. З гэтым праектам таксама можна будзе пазнаёміцца на стэндзе Выдавецкага дома падчас адмысловай прэзентацыі.

Забаўляльную праграму з прэзентацыямі і тэматычнымі віктарынамі рыхтуе для наведвальнікаў выдавецтва **«Народная асвета»**. На галоўнай выставачнай сцэне пройдзе прэзентацыя новай кнігі Аляксандра Вашчанкі «Апошняе паляванне Марэны», а ля стэнда адбудуцца сустрэчы з аўтарамі, чые выданні не так даўно пабачылі свет. Маленькіх чытачоў прывітаюць пісьменнікі Міхась Пазнякоў і Анатоль Зэкаў. Школьнікаў чакаюць тэматычная віктарына «Адкуль да нас прыйшла кніга» і серыя пытанняў, складзеных на аснове надзвычай папулярнай серыі кніг «Па старонках гісторый пра Дзеда Прыродазнаўцу».

Выдавецтва **«Адукацыя і выхаванне»** прадставіць шэраг сумесных праектаў з беларускімі і замежнымі часопісамі. Гэта перадусім новая дзіцячая кніга Раісы Баравіковай «Свята ў хату. Народны каляндар "Вясёлкі"», што выйшла ў серыі «Бібліятэка часопіса «Вясёлка», а таксама сумесная праца з украінскім часопісам «Личности», на старонках якога вядзецца расповед пра значных асоб у гісторыі, навуцы, культуры. Завітае ў Мінск і вядомы пісьменнік з Літвы Яронімас Лауцюс. Ён прадставіць свае новыя дзіцячыя кнігі, прысвечаныя правілам паводзінаў на дарозе.

На стэндзе выдавецтва **«Вышэйшая школа»** будуць прадстаўленыя кніжныя навінкі, большасць з іх — падручнікі і вучэбныя дапаможнікі па розных дысцыплінах. Асабліва ганаровае месца зойме грунтоўная серыя кніг «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў» (у 6-ці кнігах), аўтары якой атрымалі «Спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2014 года» за выдатныя дасягненні ў галіне народнай творчасці. Прэзентацыя серыі гэтых адметных выданняў пройдзе на галоўнай выставачнай сцэне. А на стэндзе ў ліку іншых імпрэз плануецца прадстаўленне ўнікальнай серыі аўдыякніг «Славутыя пісьменнікі зямлі беларускай», у межах якой ужо пабачылі свет выданні, прысвечаныя Янку Брылю, Уладзіміру Караткевічу, Якубу Коласу і Кандрату Крапіве.

Шырокі спектр вучэбных выданняў будзе прадстаўлены падчас кніжнай выстаўкі на стэндзе выдавецтва **«Пачатковая школа»**. І дзеці, і бацькі змогуць пагартаць развіваючую і мастацкую літаратуру, што пабачыла свет цягам апошняга года, пазнаёміцца з дзіцячымі часопісамі «Рюкзачок», «Рюкзачишка», «Юный техник и изобретатель». В. а. дырэктара «Пачатковай школы» Вольга Ваніна раіць звярнуць асаблівую ўвагу на кнігі, што распавядаюць пра любоў да роднай зямлі, гісторыі і мовы. Гэта выданне Навума Гальпяровіча і Наталлі Ваніной «Запрашаем у Мінск» на рускай і англійскай мовах, а таксама мастацка-паэтычны праект Навума Гальпяровіча, Армена Сардарава і Уладзіміра Шолка «Маці-зямля». Не застануцца па-за ўвагай чытачоў новыя дзіцячыя выданні: кніга Віктара Кажуры «Азбука ў вершах і малюнках», зборнік Уладзіміра Скарынкіна «Дзе і як жыве Нептун», вершаваная казка Наталлі Ігнаценка «Казка пра Цімку і Кузьку», аповесць Вольгі Нікольскай «Прыгоды агентаў «КалбаФірЖык». А «Матэматыка для першаклашак» — першая кніга новай выдавецкай серыі «Самы вясёлы падручнік» — абяцае стаць любімай кнігай дзетак, бацькоў і настаўнікаў. Акрамя прэзентацый кніг, на стэндзе выдавецтва «Пачатковая школа» наведвальнікаў чакае мноства віктарын і займальных конкурсаў з добрымі прызамі.

**Выдавецкі дом «Звязда»** рыхтуе гасцям XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу багатую прэзентацыйную праграму. Як распавяла намеснік дырэктара па кнігавыданні Алена Стэльмах, асноўны акцэнт робіцца на прадстаўленні навінак. Гасцей запрашаюць на прэзентацыю ўнікальнага праекта «Беларусь вачыма кітайцаў», кнігі Анатоля Шаркова і Алены Харашэвіч «Апошні прытулак салдата», дзіцячых выданняў Наталлі Ігнацьевай «Размова пад зорным небам», «Як два браты спартсменамі сталі», «Як два браты этыкет вывучалі». Здзейсніць падарожжа ў часе прапануюць пісьменнік Анатоль Бутэвіч у кнізе «Таямніцы Мірскага замка» і Вячаслаў Бандарэнка ў даследаванні «Палкаводцы і военачальнікі Першай сусветнай вайны — ураджэнцы Беларусі». Не абышлі ўвагай выдаўцы і 70-годдзе Перамогі. Будуць прадстаўленыя кнігі Таццяны Падаляк «Вайна — самы страшны грэх» і праца Юльяна Высоцкага «За край бацькоўскі, за Радзіму». Адмыслова для маленькіх чытачоў пройдуць прэзентацыі кніг серыі «Вясёлы калейдаскоп», а таксама проза Генадзя Аўласенкі «Ветрык і Кароль пацукоў» і Кацярыны Хадасевіч-Лісавой — «Казкі сіняй падушкі». Безумоўна, моладзь зацікавяць выданні серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць», аматараў перакладной літаратуры — кнігі пісьменніка з Казахстана Немата Келембетава «Не хачу губляць надзею» і «Лісты да сына».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

# Сусвет Скарыны




Фота Кастуся Дробава

*Алесь Суша прадстаўляе кнігу «Францыск Скарына на мовах народаў свету».*

**Прэзентацыя ўнікальнага праекта «Францыск Скарына на мовах народаў свету» прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Кніга пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда» пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны. На старонках выдання ўпершыню прадстаўлены пераклады прадмовы Францыска Скарыны да кнігі «Юдзіф» на 64 мовы народаў свету.**

Каб прывітаць новае выданне, паслухаць скарынаўскую прадмову ў перакладзе на ўкраінскую, сербскую, кітайскую, казахскую, англійскую, малдаўскую мовы, у галоўнай кніжніцы краіны сабраліся пісьменнікі, перакладчыкі, навукоўцы. Гэтая імпрэза стала першай у шэрагу рэспубліканскіх і міжнародных мерапрыемстваў, прысвечаных 525-годдзю з дня нараджэння беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара — Францыска Скарыны, якое Беларусь адзначае сёлета.

Доктар філалагічных навук, прафесар Іван Саверчанка падчас прэзентацыі падкрэсліў:

— Гэтая кніга на бліжэйшыя гады вызначае пэўны трэнд філалагічнай навукі. Сёння мы імкнёмся рабіць пераклады, перастварэнні шэдэўраў пісьмовай спадчыны для чытачоў з іншых краін. Раней ужо выходзілі падобныя выданні, але такога грунтоўнага, цэльнага праекта, як «Францыск Скарына на мовах народаў свету», дагэтуль не было. Яшчэ гадоў 30 таму пра Францыска Скарыну ў Беларусі ведалі толькі адзінкі і не ўсе выказваліся пра яго працу станоўча. Але за гэты кароткі для гісторыі тэрмін усё кардынальна змянілася. Сёння складана знайсці чалавека, які не ведаў бы імя Скарыны, а праз яго асобу Беларусь ведаюць у свеце. За гэты час і скарыназнаўства як навука прайшло велізарны шлях.

Кніга «Францыск Скарына на мовах народаў свету» збіралася руплівa, на працягу амаль пяці гадоў. Складальнікам і ініцыятарам выдання стаў вядомы краязнавец Алесь Карлюкевіч. Прадмову да кнігі напісаў кандыдат культуралогіі, намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша, які падчас імпрэзы зазначыў:

— Мы рыхтуемся да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Хацелася б заклікаць да сумеснай працы ў кірунку вывучэння і папулярызацыі спадчыны Скарыны. Мы далёка не ўсё пра яго ведаем. Няма поўнага пераліку кніг, не выдадзеныя дакументы, дзе адлюстроўваецца жыццё і дзейнасць Скарыны, недастаткова папулярызаваная мастацкая скарыніяна — творы, прысвечаныя першадрукару. У нас наперадзе шматлікія віртуальныя праекты па рэканструкцыі і рэпрэзентацыі спадчыны Скарыны, выстаўкі, шэраг іншых вялікіх спраў, якія патрэбна рабіць разам.

Праект «Францыск Скарына на мовах народаў свету» не толькі дае магчымасць пазнаёміцца з тэкстам скарынаўскай прадмовы, але і ўявіць спачыну першадрукара. У кнізе змешчаны гравюры Францыска Скарыны і выявы падрыхтаваных ім выданняў. Унікальны дызайн кнігі распрацаваны Вячаславам Паўлаўцом і Валерыем Рагалевічам.

Думаецца, 64 мовы — гэта толькі першы крок да прадстаўлення скарынаўскай прадмовы ўсяму свету. Спадзяюся, хутка з'явяцца новыя пераклады, а сам першадрукар зойме месца сярод святых заступнікаў нашага краю.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Выдавецкія клопаты*

# Усе праекты — паспяховыя

На айчынным рынку Выдавецтва «Харвест» ужо каторы год лідзіруе па колькасці выдадзеных найменняў кніг. Пра яркія праекты мінулага года, змены ў выдавецкай палітыцы і адметнасці гандлю наш карэспандэнт гутарыць з намеснікам дырэктара па эканоміцы ТАА «Харвест» Дзмітрыем Хацкевічам.

**— У пачатку года прынята падводзіць вынікі, адзначаць поспехі і шукаць прычыны няўдач...**

— Магу сцвярджаць, што 2014-ты быў для нас няпростым, але ў цэлым дастаткова паспяховым. Думаецца, паказчык у 1500 найменняў кніг, якія летась пабачылі свет у нашым выдавецтве, — найлепшы доказ.

**— Мы ведаем, што «Харвест» уваходзіць у Выдавецкую групу «АСТ». Ці ёсць змены, звязаныя з эканамічнай і палітычнай сітуацыяй у Расіі?**

— Гэтых змен мы фактычна не адчуваем. Цягам мінулага года расійскі рубль умацаваўся ў адносінах да беларускага, што прывяло да нязначнага зніжэння паказчыкаў экспарту.

**— Крыху раней кіраўніцтва выдавецтва паведамляла, што вы гатовыя выпускаць кнігі толькі для беларускага чытача. Ці з'явіліся праекты, сарыентаваныя выключна на айчынны кніжны рынак?**

— Так, і можна сцвярджаць, што колькасць такіх праектаў увесь час павялічваецца. З ліку апошніх варта адзначыць першую беларускую кулінарную энцыклапедыю «Літоўская кухарка» Вінцэнты Завадскай, «Сусветную энцыклапедыю хакея», што выйшла адмыслова да Чэмпіянату свету па хакеі, а таксама шэраг выданняў, прысвечаных беларускай гісторыі.

**— Якія ўвогуле праекты мінулага года можаце назваць паспяховымі?**

— Магчыма, гэта прагучыць нясціпла, але мы лічым, што ўсе нашы выданні паспяховыя. Яны не затрымліваюцца на паліцах кнігарняў і лёгка знаходзяць свайго чытача. Таму, думаецца, нейкія асобныя кнігі называць няварта.

**— Паколькі кнігі «Харвеста» трапляюць у буйныя гандлёвыя сеткі «Еўраопт», «Гіпа», «Рублёўскі», можна сцвярджаць, што вы маеце справу з масавым спажыўцом, схільным да стыхійнага, незапланаванага набыцця кніг. Якія выданні найбольш актыўна разыходзяцца ў гіпермаркетах?**

— Сапраўды, асартымент кніг, якія мы прапануем буйным гандлёвым сеткам, адрозніваецца ад пераліку выданняў, што трапляюць у кнігарні. Наведвальнікаў гіпермаркетаў перадусім цікавяць разрэкламаваныя ў СМІ бестселеры або недарагія дзіцячыя кнігі.

**— Ваша выдавецтва ўжо многа гадоў актыўна працуе з беларускімі аўтарамі, сябрамі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Якія навінкі айчынных творцаў вы б адзначылі?**

— Актыўна папаўняецца серыя «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», і па-за серыямі ў нас выходзяць кнігі вядомых беларускіх пісьменнікаў. Назаву толькі некалькі яркіх праектаў. Раман Мікалая Чаргінца «Трэцяя зорка», кніга «Сёмае неба» Івана Стадольніка, «Цяпло маладзіка» Уладзіміра Гаўрыловіча.

**— Набліжаецца XXII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Што можна будзе пабачыць на стэндзе вашага выдавецтва?**

— Мы традыцыйна прадстаўляем інтарэсы Выдавецкай групы «АСТ». Акрамя расійскіх кніг, у нас будзе прадстаўлена шмат беларускіх, прысвечаных 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Раю звярнуць асаблівую ўвагу на перавыданне адметнага праекта «Арміі перамогі супраць Вермахту».

**Марына ВЕСЯЛУХА**



*Памяць*

# Наш дарагі аўтар

Звторчасцю парадыстаў раней мне не даводзілася сустракацца блізка (не лічу таго, з чым зрэдку знаёмілася ў друку ды на літаратурных вечарынах, чула падчас асабістых сустрэч з аўтарамі). Як у выдаўца, рэдактара, шчыра прызнаюся, ніколі не ўзнікала ў мяне нават цікавасці да самога жанру. Больш за тое, прымала за абразу, калі нейкі «перасмешнік» браўся за выпакутаваныя душой і сэрцам радкі твораў вядомых паэтаў. Успрымала гэта як здзек, была ўпэўнена, што парадысты паказваюць свае глупства, а не талент, нават самыя вядомыя з іх, асабліва гаваруны, што «рвуць залы» са сцэны. Парадычныя прыёмы раздражнялі, узнікала крыўда за тых, хто трапляе «пад сякеру». Часта круцілася на языку: «Добра смяецца той, хто…».

Аднак з часам (можа, таму што не так часта даводзіцца ўсміхацца) у выдавецтве пачалі раз-пораз абмяркоўвацца «несур'ёзныя» творы беларускіх пісьменнікаў. Якраз тады і завітаў да нас Уладзімір Ермалаеў з рукапісам кнігі «Смех у мех, а сум у торбу».

Уладзімір Фаміч цалкам змяніў маё ўяўленне пра гумарыстычную літаратуру. Дагэтуль я ведала пра яго толькі сухія факты са стандартнай біяграфічнай даведкі: дзе нарадзіўся, вучыўся, працаваў, што напісаў і выдаў. Але з той хвіліны, як аўтар упершыню пераступіў парог нашай рэдакцыі разам са старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасём Пазняковым, — і я, і іншыя супрацоўнікі выдавецтва прынялі Уладзіміра Фаміча як свайго даўняга знаёмага. Прыемна абмяркоўваць самыя розныя тэмы, смяяцца з трапных выразаў, удалых вобразаў. Ды і яго не пакідала радасць — здавалася, струменілася з ясных вачэй, вылівалася ў шырокую шчырую ўсмешку.

Падчас працы над кнігай Уладзімір Фаміч з удзячнасцю прымаў прапановы супрацоўнікаў выдавецтва, парады рэдактара Ірыны Чарняўскай. Кожны раз мы бачылі перад сабой сапраўды шчаслівага чалавека. Можа, ён заўсёды быў такім, тады як пашанавала яго сям'і, сябрам, калегам!

У дзень, калі прыйшла сумная навіна, на пэўны час у рэдакцыі ўсталявалася цішыня. Цяжка было стрымаць слёзы, паверыць… Мы развіталіся ўсяго тры дні таму, а Уладзіміра Фаміча ўжо пахавалі. Людзі кажуць пра такую смерць «лёгкая» і дадаюць: «можна пазайздросціць». Сапраўды, падпісаўшы днём кнігу ў друк, вярнуўшыся дахаты ў добрым настроі, уначы паслухаўшы класічную музыку, ён развітаўся з жыццём.

Верым, што Анёл ахоўвае яго. Будзем успамінаць, пакуль самі на гэтым свеце. У летапісе выдавецтва назаўсёды застануцца старонкі, прысвечаныя цудоўнаму чалавеку і таленавітаму творцу.

Светлай памяцю Уладзіміру Ермалаеву будзе гэтая кніга. Дарэчы, на сёння яна атрымалася найбольш грунтоўнай у параўнанні з выдадзенымі раней. Мы выпускаем яе ў самай прэстыжнай серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» — як марыў наш дарагі аўтар.

**Ліліяна АНЦУХ**

# Умеют ли мычать лягушки?

**Вот и подрос ваш малыш… «Мам, пап, почему наша планета — это шар? А правда, что люди произошли от обезьян? Зачем нам моря и океаны, ведь там обитают страшные подводные существа?». Не волнуйтесь, уважаемые взрослые, на эти вопросы авторитетно ответит детская энциклопедия!**

## ДЕТИ МИРА

Кругосветное путешествие не выходя из дома? Запросто! Не спешите включать компьютер. На больших и красочных страницах книг «поселились» удивительные обитатели нашей Земли: от крохотных любительниц нектара колибри до рассекающих морские просторы гигантских китов. Детская энциклопедия «Животные», вышедшая в издательстве ООО «Харвест», повествует обо всех и понемногу. Но этой лаконичной и простой для понимания информации будет вполне достаточно для первого ознакомления ребёнка с миром фауны всех уголков нашей планеты. Главы описывают обитателей разных природных зон: необъятных травяных степей, песчаных, каменистых, солончаковых и скалистых пустынь, загадочной тайги, африканских джунглей и привычных нам смешанных лесов. Перед читателями во всей красе предстают жители гор, ледяных и морских пространств. Энергия кипит повсюду — и это яркое ощущение необъятности Земли поселяется в душе надолго.




Добродушные дельфины, хищные акулы, кальмары с гигантскими щупальцами, забавные морские звёзды и гребешки, неповоротливые крабы, таинственные кораллы населяют толщи морей и океанов — об этом лишь одна глава энциклопедии. Авторы не дают много времени на передышку и тут же отправляют читателей на далёкий север, в огромную пустынную, холодную тундру. Не пугайтесь! Остановитесь: только здесь можно познакомиться с грациозными оленями, могучими овцебыками, юркими леммингами и грозными полярными совами.

Увлекательный текст дополняется не только яркими фотографиями и схемами, как того требует формат познавательного издания, но и загадками на закрепление материала. Самые интересные факты — под рубрикой «Любопытно знать».

Составители энциклопедии «Животные» не забыли и о домашних питомцах. Для чего собаке нос, а петухам — гребешок? Вы узнаете, как осы умудряются строить гнёзда из бумаги, а бобры — возводить плотину. Поймёте, почему волки воют по ночам, а зайцы меняют шубки. Познакомитесь, наконец, с тем, кто жил ещё во времена динозавров — броненосцем. Убедитесь, что мычать может даже лягушка, а цветы не только нюхают, но и с аппетитом уплетают за обе щеки. Не верите? Спросите у альпийского сурка, который тоже спрятался в книге!

Но самое главное — энциклопедия пробуждает интерес ребёнка к изучению окружающей природы, учит бережно относиться к каждому представителю животного мира. Да что говорить! Книга и взрослым напоминает о том, что обладатели меховых шубок и мощных панцирей, длинных клювов и острых клыков, увесистых лап и крохотных ножек нуждаются в нашей защите!

## КОЛЫБЕЛЬНАЯ КОСМИЧЕСКИХ «ШАРИКОВ»

История Вселенной во всей своей необъятной красоте предстаёт перед глазами читателей: на страницах книги рождаются планеты, вспыхивают звёзды, извергаются вулканы, приходят в движение гигантские льды и разгуливают причудливые динозавры! Детская энциклопедия «Земля», вышедшая в издательстве ООО «Харвест», удовлетворит даже самых любопытных маленьких исследователей!

Книга знакомит с гипотезами гениальных учёных — Пьера Лапласа, Николая Коперника, Чарльза Дарвина о появлении нашей планеты и зарождении жизни. Колоритные иллюстрации позволяют почувствовать себя не просто наблюдателем — активным участником событий. Хотите увидеть, что творилось на просторах Солнечной системы несколько миллиардов лет назад? Скорее открывайте книгу! Фотографии со спутников планет и вовсе уникальны. Но это далеко не всё, чем удивляют составители энциклопедии, предлагая читателям… взглянуть через микроскоп на первые бактерии и прогуляться по лесу юрского периода!

Впечатляет раздел, посвящённый планетам Солнечной системы: на каждую даётся краткая характеристика, напоминающая маленькую биографию. Возглавляет космическую «семью» горячая жёлтая госпожа по имени Солнце. За ней следует малютка, известная своими кратерами и долинами, — Меркурий. Таинственный красный Марс, где, возможно, существовала жизнь, — следующий по списку. А потом… холмистые равнины Венеры, мощные вихри Юпитера, плотная атмосфера Сатурна, ледяной Уран и ветреный Нептун — юные астрономы будут в восторге!

Почему в одних местах планеты ясный полдень, в то время как на другом её конце — глубокая ночь? Как получается, что мы наблюдаем за снегом в окошке и кутаемся в одеяло, а жители Африки, например, в тот же миг томятся от невообразимого зноя? Энциклопедия поможет за несколько минут объяснить ребёнку эти элементарные истины.

Многогранность издания поражает воображение с каждой главой. Кто бы мог подумать, что после лёгкой и увлекательной астрономии, неспешного изучения космических «жителей» столкнёшься с пластами осадочных




пород, застывших и древних, первыми живыми клетками и географией суперконтинента Пангея!

История развития Земли в энциклопедии подаётся системно и убедительно. Составители книги охватывают все периоды формирования нашей планеты, которая, между прочим, была и раскалённым океаном, и осаждённой крупными космическими телами «крепостью».

Юному исследователю, знающему, что Земля — шар, немного приплюснутый у полюсов, не помешает разведать и тайны всех её оболочек — твёрдой литосферы, жидкой гидросферы и газообразной атмосферы. В этом тоже поможет энциклопедия, которая расскажет о бурлящей внутри планеты жизни, её водной поверхности и воздушных потоках.

Кстати, после каждой главы знатоков ждут контрольные вопросы на проверку усвоенной информации. Но гораздо больший воспитательный эффект производят другие факты о результатах воздействия на Землю человека. Правду о загрязнении воздуха, вырубке лесов, выбрасывании нефти в воду, радиации дети тоже должны знать, чтобы не допускать ошибок в будущем!

**Мария ВОЙТИК**




# Ровесникам Тома Сойера

Сменяя ползунки и пелёнки на школьные портфели и дневники, дети вступают в непростой возраст, когда от них уже требуется инициатива, смелость, умение принимать решения. Но что, если ребёнок один, а в доме — пожар, рука кровоточит от пореза или на ноги упала кастрюля с горячим супом? Как не растеряться, вовремя собраться с духом, да ещё и прийти на помощь другим? О правилах поведения в сложных ситуациях ровесникам Тома Сойера рассказывает психолог Людмила Петрановская в книге «Что делать, если… 2» вышедшей в «Издательстве «АСТ» при участии ООО «Харвест».

Будучи детским психологом, автор знает, что энергия в девять — одиннадцать лет так и бурлит — и это «зона» риска для родителей! «Можно бегать без устали, кричать во всё горло, есть снег горстями, лазать по деревьям, падать с велосипеда и роликов»: неугомонным созданиям хочется всё попробовать и обо всём узнать! Но если вовремя не объяснить, что можно, а что нельзя, причём без скандалов, нудных лекций и упрёков, может случиться беда.

Книгу Людмилы Петрановской рекомендуется смело вводить в школьную программу: в ней все основные советы, базовые знания, владея которыми ребёнок почувствует себя увереннее и избежит трагических историй.

Речь в издании о выборе. Дети часто задают себе вопросы: обращаться к взрослым за помощью или считать, что это стыдно и для слабаков; пробовать сигареты, потому что это модно, или отказываться вопреки тому, что тебя будут считать изгоем? Книга научит выходить из лабиринта противоречий и социальных стереотипов, стать самостоятельным, принимать первые мудрые решения.

Не надо сидеть и плакать, если ты поранился, утверждает психолог и тут же даёт уйму советов о том, как остановить кровь, продезинфицировать ранку, научиться пользоваться пластырем и бинтами. Упоминает автор и про ожоги — тоже весьма распространённые детские «увечья». А подкрепляет свои слова случаями из жизни: о том, как пятилетний мальчик Данила спас девочку, провалившуюся под лёд, или о подвиге одиннадцатилетней Даши, которая выбралась из горящего дома вместе с маленькими братом и сестрой. Как видите, всё возможно, главное — знать, как правильно действовать.

Людмила Петрановская касается в своей книге и ещё одной важнейшей проблемы — понимания между детьми и родителями. Взрослые нередко сталкиваются с протестом, пытаясь внушить своим отпрыскам, что звонить в дверь старушке и убегать — это не по-мужски, а стащить в магазине шоколадку — не такая уж безобидная шалость. Психолог обращается в книге к мамам и папам: учит быть гибкими, прислушиваться, не давить, но и не оставлять без внимания, а ещё — запастись терпением.

Параллельно писательница предлагает мальчикам и девочкам, которые очень хотят завести домашнее животное, например собаку (родители категорически против), план действий по осуществлению своей мечты.

Многие жалуются на то, что трудно учиться… В книге как раз рассказывается, как воспитать в себе внимание, раскрыть способности и начать добиваться успехов.

Текст каждого раздела разбит на небольшие части, украшен забавными подзаголовками и цветными выносками, таблицами и схемами, похожими на инфографику, поэтому усваивается легко и с удовольствием. А рисунки Андрея Селиванова, напоминающие весёлые карикатуры-комиксы, заставляют улыбаться ещё долгое время!

Одним словом, творение Людмилы Петрановской очень жизнеутверждающее! «У человека в жизни обязательно должно быть достаточно места для радости. Поэтому если чего-то не хватает — надо искать!», — уверена автор. Она мотивирует маленьких, а заодно и взрослых бороться за радость, а не жить в тоске и скуке, — переключаться, двигаться, стремиться.

**Мария ВОЙТИК**

# Адзінота і вышыні

Вельмі знакавым мастацкім сігналам з далёкай мінуўшчыны падаюцца словы класіка кітайскай паэзіі Ду Фу: «Калі ж бы літаратура / Хоць трохі мне стала падмогай» (пераклад Рыгора Барадуліна). Відаць, сотні вершатворцаў маглі б падпісацца пад гэтымі радкамі як пад арыгінальным уласным прызнаннем. Паэт сапраўды драматычнага лёсу, кітайскі першаадкрывальнік многіх сімвалаў і мастацкіх вобразаў з восьмага стагоддзя, Ду Фу працягвае і цяпер свой дыялог з чытачом.

Яшчэ напрыканцы 1950-х гг. Максім Танк зрабіў такі запіс у сваім дзённіку: «…Ехаў з Пількаўшчыны. Спыніўся ля партызанскага абеліска, каб паглядзець, як разбушавалася Нарач. Шмат дзе хвалі даходзілі да самай дарогі. Вось як гэта харастэва замкнуць у вобраз? Недарма Канфуцый лічыў — гэта я чуў ад кітайскіх сяброў, — што адзін вобраз варты тысячы слоў. Я не тэарэтызую, бо ўсякая тэарэтызацыя ў паэзіі — рэч непрыдатная…». На той час Танк ужо ведаў шмат чаго з паэзіі Кітая, ужо пабываў у Паднябеснай.

А яшчэ ці не два гады раней, 27 студзеня 1956 года, у танкаўскім дзённіку з'яўляецца запіс: «Чытаю вершы Ду Фу, перакладзеныя А. Гітовічам на рускую мову. Які высокі ўзровень гэтай паэзіі, якая праз тысячу год данесла да нас любоў паэта да свайго народа, да сваёй радзімы, жывое біццё яго сэрца…»

Лепей, пагадзіцеся, і не скажаш — жывое біццё сэрца…

Калі паэзія перадае вобразы ва ўсіх іх красках, калі фарбы мастацкага слова ідуць ад жывога, шматаблічнага, яркага жыцця, тады слова, прыдуманае, адкрытае няхай сабе і тысячу гадоў таму ці нават больш, будзе цешыць і наш слых, і наш зрок цэлую вечнасць. Пра гэта думаецца, калі чытаеш вершы кітайскага паэта-класіка Ду Фу і калі чытаеш яго менавіта па-беларуску. Рыгор Барадулін, Уладзімір Дубоўка, Мікола Мятліцкі, Навум Гальпяровіч адважна падступіліся менавіта да гэтай вечнасці. Якім будзе плён, вырашаць, канечне ж, не нам, а наступным пакаленням чытачоў. Адзінае, што хацелася б сказаць ужо сёння: спрыяе перакладчыцкай адвазе такіх розных, але цікавых майстроў шырокі дыяпазон роднага беларускага слова. Зусім нядаўна той жа Максім Танк пісаў: «Трэба сказаць, што ў нас майстэрству перакладу, пачынаючы ад М. Багдановіча і Я. Купалы, да гэтага часу не ўдзялялася належнай увагі. Няма ў нас ні грунтоўных даследаванняў, ні манаграфій…». Праўда, ён жа раней напісаў: «Перакладаю і перакладаю. На перакладах кожная мова правяраецца на гнуткасць, на трывалась, на гарт і бляск…». І сам Танк за гады руплівай творчай працы пераклаў неймаверна вялікую колькасць паэтычных адкрыццяў іншых мастакоў слова.

Ду Фу, Ван Вэй, іншыя кітайскія паэты-класікі — гэта праверка і выпрабаванне для беларускай мовы, для беларускай цяпер ужо школы мастацкага перакладу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## Ду Фу (712 — 770)

### Запісаў свае думкі падчас вандравання ўночы

*Калі ж бы літаратура*
*Хоць трохі мне стала*
*падмогай.*
*Вызваліла б ад службы —*
*Вечнай пагоні за хлебам.*
*Сёння ж маё становішча*
*Падобна сваёй трывогай*
*Да чайкі, якая мітаецца*
*Спаміж зямлёю і небам.*

**З кітайскай. Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА**

### Цвыркун

*Такі маленькі цвыркунок,*
*што ледзьве бачыць яго зрок,*
*але кранае сэрцы ўсім*
*журботным галаскам сваім.*
*Ён у траве звініць удзень,*
*а ноччу ў хату забрыдзе.*
*Засядзе дзе пад ложкам там,*
*пачне тайком сяваць людзям.*
*І я, без роднай тут зямлі,*
*аж захлынаюся слязьмі:*
*згадаў я жонку і дзяцей,*
*зноў не самкне яна вачэй.*
*Рыданне струн і флейты стогн*
*нас не расчуляць так, як ён,*
*як галасочак, што для нас*
*цвырчыць і ў самы позні час.*

**З кітайскай. Пераклад Уладзіміра ДУБОЎКІ**

### У адзіноце

*Ў сінім небе кружляе*
*Магутная дужая птушка.*
*А пад ёю дзве чайкі*
*Плывуць па маўклівай вадзе.*
*І драпежніку лёгка*
*Ўчаперыцца тут жа.*
*Ды не думаюць чайкі,*
*Што блізкія гэтай бядзе.*
*Пацямнела вакол,*
*І раса выпадае на травы.*
*А павук між галінак*
*Пляце свой зацейлівы ўзор.*
*І стаю я адзін, і вятрыска*
*ласкавы*
*Шле свае прывітанне*
*З далёкіх і сцішаных гор.*

**З кітайскай. Пераклад Навума ГАЛЬПЯРОВІЧА**

# Што ўзбагачае Чалавека




*Ай Цін. Водар стоенага лесу: зборнік паэзіі. — Мінск: Звязда, 2015. — 64 с. — (Светлыя знакі: паэты Кітая).*

Кніжныя серыі, асабліва ў галіне паэтычнай, — з'ява па сённяшнім часе рэдкая. І таму асабліва прыемна бачыць руплівыя намаганні выдавецтва, якое імкнецца выбудаваць пэўную лінейку, пэўны прасцяг. У дадзеным выпадку — размова пра серыю «Светлыя знакі: паэты Кітая», якой Выдавецкі дом «Звязда» прадстаўляе кітайскую паэзію ў перакладах на беларускую мову.

Некалькі гадоў таму (дакладней — у 2012) «Звязда» з падтрымкай Міністэрства інфармацыі краіны (а яшчэ да гэтай справы спрычыніўся Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Белдзяржуніверсітэта) выпусціла сапраўдную анталогію «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая». Ёмісты том увабраў пад свой «дах» пераклады, над якім працаваў адзін Мікола Мятліцкі. Здавалася б, чакаецца доўгі перапынак.

Але атрымалася інакш. Адна за другой да чытача ў 2015 годзе прыйшлі кнігі чатырох славутых паэтаў Кітая — Ван Вэя, Лі Бо, Ду Фу, Ай Ціна. Творцы з розных эпох прадсталі і ў перакладах Міколы Мятліцкага, і ў перакладах іншых беларускіх паэтаў.

Ай Ціна з кнігай «Водар стоенага лесу» ўзнаўляюць па-беларуску, акрамя Міколы Мятліцкага, Навум Гальпяровіч і Таццяна Сівец. Нагадаем: Ай Цін нарадзіўся ў 1910 годзе. Першая кніга пабачыла свет у 1936 годзе. Адукацыю атрымаў у Францыі. Паэтычны талент маладога творцы развіваўся пад уплывамі Э. Верхарна, У. Уітмэна, У. Маякоўскага. Прызнаюся, даведаўшыся пра гэтую акалічнасць, я перачытаў па-беларуску і У. Маякоўскага, і У. Уітмэна («Лісце травы» ў перакладзе Янкі Сіпакова і зараз ляжыць на маім стале). Мне здаецца, што Ай Ціну пашчасціла з беларускімі перакладамі не меней, чым У. Уітмэну.

«Расчыніце насцеж вокны, / Адчыніце вашы дзверы, — / Хай загляну, хай пранікну / Ў вашы цесныя пакоі... / Кветак ранішніх букеты прынясу вам, / Водар стоенага лесу прынясу вам, / Прынясу вам рос сцюдзёных — чуйце свежасць, / Ды прачніцеся хутчэй жа, сон зганіце...» («Слова сонца», пераклад Міколы Мятліцкага). З першых сваіх паэтычных кніг Ай Цін рашуча сцвярджаў галоўныя мастацкія сімвалы — Сонца, Вецер, Горы, Снег, Вада. Бялюткія, чысцюткія, пранізлівыя, яркія і самадастатковыя, энергетычна насычаныя сімвалы!.. Колеры, візуальная рэльефнасць паэзіі кітайскага майстра — усё пачало грунтавацца на аснове Святла і Сонца. «Левы» па духу, па самой сваёй сутнасці, творца называў кнігі адпаведным чынам — «Да сонца», «Вестка пра світанне». Здавалася б, з усталяваннем улады камуністаў яго павінен чакаць шчаслівы творчы лёс. У 1955 годзе маскоўскі часопіс «Иностранная литература» друкуе ўрывак з паэмы Ай Ціна «У падарунак Сталіну». Вось табе, як можна было б падумаць, і «ахоўная грамата»... Але Ай Цін дазволіў сабе пакрытыкаваць парушэнне дэмакратычных нормаў з надыходам праўлення Маа Цзэдуна. Як вынік — доўгатэрміновая высылка ў вёску, прымусовыя работы на працягу 16 гадоў — прыбіральшчыкам грамадскіх туалетаў. Друкаваць пачалі толькі пасля поўнай рэабілітацыі ў 1978 годзе. У 1980-м выйшла новая кніга — «Песні вяртання».

«Гэта не пакінутыя рэчы: / Іх бюро знаходак нам вяртае; /— Час не вярнуць, як тыя рэчы, / Не вядома, дзе яго гублюць; Па драбніцах, што драбней гароху, / Ці адразу — дзесяць год ці дваццаць — / Цэлая губляецца эпоха...» (пераклад Міколы Мятліцкага). Ай Цін, прайшоўшы праз няпростыя выпрабаванні, застаўся ў сваёй, аднойчы выпрацаванай сістэме мастацкіх каардынат. Філосаф, здольны рэальна адлюстроўваць навакольнае жыццё, ён пакінуў цікавую паэтычную спадчыну, поўную сонечнага святла, багатую на жыццесцвярджальныя вобразы і сімвалы. Лірыка кітайскага майстра нечым падобная да паэзіі Максіма Танка, Янкі Сіпакова, Сяргея Дзяргая, Петруся Макаля, нашых сапраўдных паэтаў-шукальнікаў Шчасця і Сонца, Святла і Ветру.

«Светлыя знакі...» — так гавораць пра іерогліфы. Іх светласць адчуваецца ў паэзіі Ай Ціна і ў перакладах на беларускую мову. А сама серыя як з'ява, будзем на гэта спадзявацца, справакуе яшчэ большую цікавасць беларускіх паэтаў да кітайскага мастацкага свету.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

## Ай Цін (1910 — 1996)

### Зімовы бор

*Вандраваць люблю зімовым*
*борам я,*
*Сонца хай няма — ў зімовым*
*боры я,*
*Разам з ветрам — у зімовым*
*боры я,*
*Снег ідзе, але ў зімовым боры я.*

*Я люблю зімовы дзень —*
*без яркасці,*
*Я люблю зімовы дзень —*
*без вільгаці*
*І люблю без гоману птушынага…*

*Чалавек шчаслівы, калі можа ён*
*Вандраваць адзін парой зімоваю,*
*Быццам паляўнічы,*
*Засяроджаны,*
*Толькі ўпалявацъ няма каго…*

### Без назвы

*…І я, адзінокі, сачыў, як згасаў*
*каганец,*
*Любіў разам з ноччу ахоўваць*
*спакой на зямлі.*
*Я чую, як вецер спявае пра тых,*
*што калісь тут жылі,*
*Пра тых, хто ў дарозе,*
*хто памятае пра мяне…*

### Возера зімою

*Возера зімою, бы стары, —*
*Сэрца яго тужыць*
*Па вясне.*

*Возера зімою… Да пары*
*Яго бляск пагас,*
*Засыпаў снег*

*Возера зімою… Пасівеў*
*Берагоў яго*
*Стары аер.*

*Змрочнае сумоўе: чалавек… і*
*Возера ля ног яго,*
*Бы звер.*

### Вогнішча

*Калі змрок на лес апускаецца,*
*Дрэвы ўспыхваюць зыркім*
*полымем —*
*Па-над лесам жар*
*разгараецца,*
*Быццам вогнішча хтосьці*
*паліць там.*
*Белым беліць дым,*
*бы туман начны,*
*Ён плыве ракой па сівых гарах,*
*Ён на поплаве разліваецца,*
*А куды плыве — толькі*
*ветру знаць.*

*Ды скрозь дым сівы*
*і скрозь полымя*
*Бачу цені я невыразныя —*
*Там ідуць з палёў да сваіх хацін*
*Дзеці вёскі маёй, спрацаваныя.*

### Цётка цырує адзенне

*Цётка цырує адзенне*
*ля краю дарогі,*
*Ціха вандроўнікі шляхам*
*збялелым брыдуць.*
*Вецер узніме гарачае*
*воблака пылу —*
*Пыл застаецца на хустцы,*
*пыл ляжа на сукні яе.*

*Плача дзяціна — сляза*
*высыхае расою,*
*Скрушную думку люляе*
*жанчына пра дом,*
*Дом, дзе дачка нарадзілася,*
*дом, што спаліла нядоля,*
*Ёйнага дому няма больш —*
*і шчасця няма.*

*Цётка цырує адзенне*
*ля краю дарогі,*
*Ціха збягае сцяжына*
*ў далёкія дні.*
*Бежанцам цётка цыруе*
*адзенне, а тыя*
*З ёй пасядзяць, адпачнуць —*
*і ў дарогу ізноў.*

### Я люблю гэту зямлю

*Быў бы я птушкай —*
*самотныя песні спяваў бы:*
*Край мой пакутны*
*лагодзіў бы песняй сваёй.*
*Спеў мой пра гора,*
*народнае, горкае гора,*
*Спеў мой пра вецер,*
*што сэрцу заснуць не дае.*

*А запытаюць:*
*«Чаму на вачах тваіх слёзы?»*
*Ціха скажу ім:*
*«Люблю я Айчыну маю».*

**З кітайскай. Пераклад Таццяны СІВЕЦ**




*1 месца. «Я таксама буду героем — як мой прадзед».*

# Прыпыніся на хвіліну!

Кідкія і буйныя малюнкі з лаканічным тэкстам, дзе спалучыліся фатаграфія і жывапіс, заўсёды служылі добрай крыніцай інфармацыі і прыцягвалі ўвагу. Беларускі плакат не выключэнне. Вынікі міжнароднага конкурсу плаката патрыятычнай тэматыкі «Нам дарагі мір», прысвечанага 70-годдзю Вялікай Перамогі, падведзены рэктарам Акадэміі мастацтваў Міхаілам Баразной. Конкурс аб'яднаў моладзь самага рознага ўзросту з сямі краін СНД і Балтыі.

Сярод больш як 380 прац цяжка было выбраць лепшыя, але ўсё ж такі пераможцы знайшліся! Дарэчы, упершыню журы галасавала ў анлайн-рэжыме. Ацэньвалі плакаты прафесійныя мастакі і дызайнеры з Беларусі, Расіі, Арменіі, Казахстана.

Дыплом першай ступені атрымала праца «Я таксама буду героем — як мой прадзед» беларусаў з Гродна Ігара Адасіка, Ксеніі Адасік і Аляксандра Перагудава. Другое месца аддадзена плакату «Дарога да Перамогі» Нанэ Варданян з Арменіі. Дыплом трэцяй ступені падзялілі тры працы: «Подзвіг» (Яўгенія Аксёнава, Расія), «Цана за надзею, каб крочыць па мірнай зямлі» (Акмарал Табылава, Казахстан), «Ура!!! Перамога! 1945» (Таццяна Сцепаненка, Украіна). Многія аўтары атрымалі спецыяльныя прызы.

«На ўдзел у конкурсе мяне натхніла мая жонка Ксенія Адасік, якая працуе на факультэце гісторыі, камунікацыі і турызму ГрДУ імя Я. Купалы, і дачка Адэліна, якая часта просіць мяне расказаць пра вайну. А я, у сваю чаргу, распавядаю пра яе прадзедаў ды іх подзвігі», — паведаміў пераможца Ігар Адасік. Ён працуе інжынерам радыё і тэлебачання ў Гродне. Надзвычай цікавы чалавек! Усе яго захапленні цесна звязаны з мастацтвам. Больш за 13 гадоў ён займаецца стэндавым мадэлізмам: клеіць мадэлі аўтамабіляў часоў Вялікай Айчыннай вайны, макеты замкаў для музеяў, выраблае музычныя інструменты і грае на іх — ад этна да джаза.




*2 месца. «Дарога да Перамогі».*

«Шырокую вядомасць атрымалі распрацаваныя мной папяровыя замкі Беларусі, а макеты розных будынкаў друкуюцца ў беларускіх перыядычных выданнях. Я шмат займаюся графікай: малюю карыкатуры, афішы, чарцяжы і нават гербы», — распавёў аўтар.

Першае месца, разам з Ігарам Адасікам і яго жонкай, падзяліў Аляксандр Перагудаў — студэнт таго ж ГрДУ імя Я. Купалы, малады гродзенскі фатограф, які дапамагаў выбіраць найбольш выразны варыянт плаката. А хто так упэўнена ім пазіруе, засталося сакрэтам: аўтар не прызнаўся. Будзем спадзявацца, што гэтае дзіця — будучы ахоўнік краіны, бо надта ж смелы ў яго погляд!

Арганізатарамі конкурсу выступілі Міністэрства інфармацыі Беларусі, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Выдавецкі дом «Звязда».

**Марыя ВОЙЦІК**









*3 месца. «Ура!!! Перамога. 1945», «Подзвіг», «Цана за надзею, каб крочыць па мірнай зямлі».*

# Кітай: шматгалосы распавед

Кітайская кухня, кітайскія тавары, студэнты-кітайцы — Кітай заўсёды побач, мы рэгулярна згадваем яго ў будзённых размовах, — магчыма, значна часцей, чым бліжэйшую Францыю ці суседку Літву. Але многія паняцці, да якіх рэгулярна звяртаемся, застаюцца недастаткова асэнсаванымі. Гісторыя Кітая, цікавыя звычаі і традыцыі, асаблівасці духоўнай культуры — з усім гэтым выдатна знаёміць мастацкая літаратура. Творы 44 кітайскіх пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову прадстаўлены ў зборніку «Стагоддзе на знаёмства» («Звязда», 2014).

Як пазначана ў прадмове, выданне з'яўляецца «своеасаблівай рэтраспектывай таго, што ўжо здзейснена ў справе прадстаўлення кітайскай літаратуры беларускаму чытачу». Пераклады паэзіі зроблены Міколам Мятліцкім, а вось імёны перакладчыкаў прозы наўрад ці вядомыя сучаснаму чытачу. Гэта загадчык рэдакцыі перакладаў выдавецтва «Беларусь», а потым «Мастацкая літаратура» Леў Салавей (1925 — 1988), пісьменнік з Оршы Яўген Васілёнак (1917 — 1973), выпускніца Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума Ганна Сапрыка (1911 — 1962), якая доўгі час працавала ў беларускім дзяржаўным выдавецтве.

У зборніку празаічныя творы чаргуюцца з вершамі, і калі знаёмства з кітайскай паэзіяй пачынаецца творамі Цюй Юаня, напісанымі да нашай эры, то проза прадстаўлена імёнамі пісьменнікаў XX стагоддзя. У першую чаргу гэта тры апавяданні аднаго з самых знакамітых кітайскіх пісьменнікаў Лу Сіня (1881—1936) і раздзелы з рамана Дзін Лін «Сонца над ракой Сангань», за які аўтарка ў 1952 г. атрымала Сталінскую прэмію. Гэты раман, як і творы Лю І-Ціна, Гу Юя, Ма Фына, выяўляюць побыт і звычаі кітайскіх сялян і разам з тым адвечна скіраваныя на падтрымку сацыяльных і эканамічных змен у камуністычным Кітаі. Многія пісьменнікі-камуністы былі рэпрэсіраваны ў гады «культурнай рэвалюцыі», нехта пацярпеў у час іншых крывавых падзей: так, паэтэса, камуністка, заснавальніца феміністычнага руху ў Кітаі Цю Цзінь пакарана смерцю ў 1907 годзе за арганізацыю ўзброенага паўстання. На жаль, драматычная гісторыя Кітая не знайшла адлюстравання ў каментарыях да твораў, і побач з тэкстамі нават не пазначаны год напісання.

Калі ўзброіцца «Кароткай літаратурнай энцыклапедыяй», можна адшукаць неабходныя звесткі пра большасць аўтараў, але знаёмства з кітайскай літаратурай і гісторыяй рызыкуе расцягнуцца на вельмі працяглы час. Бо дваццаць чатыры паэты, прадстаўленыя ў зборніку, належаць да розных эпох, і, вядома, творчасць кожнага мае свае адметнасці. Так, вершы Таа Юаньміна (365 — 427) «Вярнуся на палі і ў сады» прысвечаны імкненню вызваліцца ад чыноўніцкай службы, апяваюць радасць простага жыцця на ўлонні прыроды. Расповед пра штодзённыя вясковыя справы, працу і адпачынак, стасункі з сябрамі і сям'ёй спалучаецца з апісаннем душэўнага стану паэта, смутку ці радасці.

Але змешчаныя ў зборніку вершы не заўсёды адлюстроўваюць найбольш адметныя рысы творчасці пэўнага аўтара. Часцей за ўсё гэта пейзажная лірыка, дзе стан прыроды ў большай ці меншай ступені сугучны настрою паэта. Творы Се Аня, Се Хуаня, Фань Юня вучаць адчуваць паэтычнае майстэрства ў радках, прысвечаных прыродзе. І гэта асабліва важна для беларускага чытача, бо і ў нашай літаратуры багата пейзажных замалёвак, якія трэба ўмець ацэньваць, каб атрымліваць ад паэзіі асалоду!

На старонках зборніка нямала вершаў, прысвечаных універсальным праблемам. Як і старажытныя грэкі, кітайскія паэты часта сумуюць па незваротнай маладосці і прыгажосці, а потым суцяшаюць сэрца віном ды лютняй. У другой палове кнігі ідылічная паэзія саступае месца творам, дзе адлюстроўваецца трагізм вайны і несправядлівасць лёсу — як у вершы Ван Шычжэня (1526 — 1590) «Змагаюся на поўдні ад горада»:

*Атрады ўспамінаюць*
*аб забітых,*
*Пытаюцца ў старэйшых*
*ваявод,*
*Героі ваяводамі забыты,*
*Забыта ўсё, што перанёс народ.*
*«Маўляў, байцоў нямала*
*ў сечах гіне,*
*Ім на мяжы прыпала ваяваць,*
*А трупы — пазарытыя*
*ў пустыні,*
*Цяпер на іх ці варта гараваць?»*

Напрыканцы зборніка змешчаны творы паэтаў першай паловы XX ст.: Го Можо, Чжу Сяна, Ай Ціна. Агляд прозы завяршаецца апавяданнем Яа Цзіна «Пра самую вялікую любоў». Галоўны герой з удзячнасцю думае пра шчаслівыя мірныя дні, «завяяваныя гадамі пакут і барацьбы», але пагаджаецца з жаданнем жонкі ехаць на радзіму ў Карэю, каб змагацца супраць амерыканскага агрэсара. Як вядома, на развіццё кітайскай прозы моцна ўплывала расійская літаратура: не толькі класікі Антон Чэхаў і Фёдар Дастаеўскі, але і пазнейшы сацрэалізм. Адпаведна, многія сюжэты і персанажы падаюцца добра знаёмымі. Работніцы ткацкай фабрыкі абураюцца, чаму сяляне не здаюць бавоўну дзяржаве. Сакратар ячэйкі спяшаецца на ўласнае вяселле, а па дарозе ловіць варожага агентагамінданаўца. Старая сялянка робіць выгляд, што аглухла, і не хоча скардзіцца на памешчыкаў («А мінулае ўспамінаць — дык усё ж гэта дробязь, не раўнуючы блохі кусалі!») — на сходзе яе абвяшчаюць палітычна несвядомай. Разам з тым праз крытычнае стаўленне да перажыткаў феадалізму выяўляюцца адметнасці кітайскай культуры: напрыклад, звычай жаніць хлопчыкаў са значна старэйшымі за іх дзяўчынамі.




На шчасце, кітайская літаратура не скончылася творамі пісьменнікаў-камуністаў: так, у адным з апошніх нумароў «Нёмана» (№ 10, 2014) змешчаны пераклады сучасных пісьменнікаў А І, Вэй Вэй, Чжу Вэньін, Лу Мінь, Гэ Ляна. Проза гэтых аўтараў найбольш нагадвае апавяданні Лу Сіня, азначаныя імпрэсіяністычнасцю, рэтраспектыўнасцю, пэўным містыцызмам. Найбольшую вядомасць маюць сатырычныя творы Лу Сіня, але сучаснаму чытачу будуць больш да густу апавяданні «Зелле», «Роднае сяло», «У шынку», змешчаныя ў зборніку «Стагоддзе на знаёмства». Чытачу гэтай кнігі будзе цікава не толькі расшыфроўваць імёны пісьменнікаў (каб даведацца, напрыклад, колькі між іх жанчын), але і больш дэталёва пазнаёміцца з культурай Кітая.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Зразумець суседа па «глабальнай вёсцы»



А Лай.



Сі Чуань.



Лаа Ма.



Сю Цзэчэнь.

**Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш — выдатная пляцоўка для наладжвання міжнароднага дыялогу, знаёмства з новымі аўтарамі, кнігамі, культурамі. Сёлета ў сталіцу завітаюць надзвычай рэдкія госці — пісьменнікі з Кітая. Чытачы «ЛіМа» маюць унікальную магчымасць яшчэ да кірмашу пазнаёміцца з аўтарамі такой далёкай краіны. Наш карэспандэнт Марына Весялуха задала наступныя пытанні шаноўным гасцям.**

*Кажуць, што літаратура сёння перажывае крызіс. Людзі менш і менш чытаюць, а меркаванне пісьменнікаў не мае важнага значэння для фарміравання грамадскай думкі. Ці сапраўды гэта так?*

*Вы ўпершыню ў Беларусі? Якія чаканні адносна ўдзелу ў Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы?*

*Існуе меркаванне, што з-за розніцы менталітэтаў чытачы ў Еўропе не могуць цалкам зразумець і ацаніць кітайскую літаратуру. Якія тэмы вы закранаеце ў сваіх творах? Ці лёгка еўрапейскім чытачам, у тым ліку і з Беларусі, зразумець іх?*

**А Лай, паэт, празаік, старшыня Сычуаньскага Саюза пісьменнікаў, лаўрэат прэстыжнай Літаратурнай прэміі Маа Дуня:**

— На першы погляд падаецца, што літаратура сутыкнулася з нейкімі цяжкасцямі. Асноўнай прычынай гэтаму — змены, звязаныя з развіццём інтэрнэт-СМІ. Сучасныя людзі з большай ахвотай атрымліваюць інфармацыю з сеціва. Гаворка ідзе не толькі пра навіны, але і пра літаратурныя тэксты. Таму, мяркуючы павярхоўна, усё менш людзей чытае друкаваныя кнігі, але колькасць чытачоў літаратуры не зменшылася. Проста некаторыя пераключылі ўвагу на электронныя носьбіты, пры чытанні часцей карыстаюцца камп'ютарамі і тэлефонамі. Таму, разважаючы пра пытанні запатрабаванасці літаратуры, дакладней было б звярнуцца да праблемы друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, цесна звязаных з літаратурай. Падобная сітуацыя назіраецца ва ўсім свеце: Кітай — не выключэнне. Думаецца, што абставіны тут нават больш вострыя, бо наша краіна імкнецца да навізны і зменаў. Тым не менш панікаваць нявартa. Трэба ўсвядоміць, што аўтарам, якія звыкліся трымацца друкаваных СМІ, трэба нарэшце падумаць пра змену пазіцыі.

Максім Горкі казаў: «Літаратура — гэта чалавеказнаўства». Я кітаец і прачытаў многа еўрапейскіх твораў у перакладзе на кітайскую. Лічу, калі ў творы ідзе гаворка пра чалавека, яго лёс у пэўным этнасе, краіне, культуры, ніякіх значных перашкод для разумення няма. Напрыклад, раман беларускага пісьменніка Васіля Быкава, дзе апісваюцца падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Хоць я прачытаў гэты твор больш як дваццаць гадоў таму, ён пакінуў неверагодна глыбокі след. Падаецца, тое самае адбываецца, калі еўрапейцы чытаюць кітайскую літаратуру. Не думаю, што падчас знаёмства ўзнікнуць перашкоды, звязаныя з адрозненнем ладу мыслення кітайцаў і еўрапейцаў. Важна тое, ці згодныя вы зразумець «селяніна», які жыве ў нашай «глабальнай вёсцы», суседа, такога ж чалавека, як вы. Неабходна пазбавіцца стэрэатыпаў. Не існуе такога свету, у які нельга было б трапіць.

Што да асноўных сюжэтаў маіх твораў, можа падацца, што гісторыі, звязаныя з Тыбетам, узмацняюць адчуванне загадкі. Але гэта не ўсё. За сюжэтам стаяць людзі, якія маюць фізічную абалонку, душу, у якіх з усімі, хто жыве ў гэтым свеце, ёсць намнога больш падабенства, чым адрознення. Мае кнігі, выдадзеныя ў Заходняй Еўропе ў перакладзе на англійскую, французскую, нямецкую, італьянскую, іспанскую, галандскую і іншыя мовы, атрымалі шырокае прызнанне. Ва Усходняй Еўропе творы перакладзены на сербскую і іншыя мовы. З нецярплівасцю чакаю водгукаў беларускіх чытачоў. Падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу я ўпершыню наведаю Беларусь і чакаю знаёмства з калегамі.

**Сі Чуань, паэт, празаік, эсэіст, перакладчык, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Лу Сіня, Вялікай прэміі дзеяча ў галіне культуры Кітая за апошнія 10 гадоў (2001 — 2011), Шанхайскай газеты Oriental Morning Post:**

— Я не ўпэўнены, што літаратура можа паспяхова пераадолець крызіс. Справа ў тым, што крызісы маюць уласцівасць хавацца цягам дзесяцігоддзяў, але аднойчы ўсё літаральна выбухае. Напэўна, з-за гэтага многія лічаць літаратуру бескарыснай і шукаюць больш практычныя ідэі для вырашэння жыццёвых цяжкасцей. Варта адзначыць, што ва ўсе часы людзі кіруюцца парадамі, якія прапануюць больш хуткае вырашэнне праблемы, асабліва калі гаворка ідзе пра няўпэўненых у сабе асоб. Але калі яны апынаюцца ў цемры, толькі некаторыя адчуваць патрэбу звярнуцца да паэзіі. Вось чаму многія вялікія пісьменнікі перажываюць сапраўднае натхненне падчас няўдач. Пачуццё ўласнай вартасці аўтараў мае карані ў іх сапраўдных інтэлектуальных здольнасцях, уменні распавесці нешта новае. А гэта вельмі складана. У Кітаі аўтараў бестселераў паважаюць, бо яны маюць поспех на рынку. Але геніяльныя паэты і пісьменнікі больш значныя для гісторыі і цывілізацыі.

Я ўпершыню наведаю Беларусь. Мне сапраўды цікава пабачыць вашу краіну. У перакладзе з кітайскай мовы слова «Беларусь» азначае «Белая Расія». Што гэта значыць? Хочацца пабачыць на свае вочы. Мне таксама цікавая ваша культура, якая існуе побач з гігантам. Вы лічыце сябе часткай расійскай культуры ці маеце пачуццё адрознасці? А яшчэ мне цікава паназіраць, як сацыялістычнае мінулае адбіваецца на каштоўнасцях і штодзённым жыцці людзей.

Многія кітайскія інтэлектуалы схіляюцца да меркавання, што мы здольныя зразумець і ацаніць еўрапейскую літаратуру лепш, чым еўрапейцы могуць адчуць кітайскую. Гаворка ідзе пра нешта накшталт няроўнасці ў нашым узаемаразуменні. Пачынаючы з сярэдзіны XIX стагоддзя кітайцы актыўна вывучаюць еўрапейскія культуры, у той час як краіны Еўропы ў культурным сэнсе заставаліся сканцэнтраванымі на сабе. Канечне, існуе вялікая розніца паміж мовамі, а таксама ладам жыцця і мыслення, але цікаўнасць — гэта найбольш важная ўмова, якая дае магчымасць зразумець іншага. Ці яшчэ глыбей: зразумець сябе. У сваіх творах я звычайна акцэнтую ўвагу на спосабах мыслення. Гэта значыць, што пішу пра ўсё, але на ўсё шукаю свой пункт гледжання. Мне падабаюцца байкі, заснаваныя на абсурдзе, без дакладна вызначаных алегорый.

**Лаа Ма (сапр. Ма Цзюньцзэ), празаік, драматург, ганаровы сябар мастацкага камітэта Саюза Кітайскіх Пісьменнікаў:**

— Разглядаючы пэўныя пытанні, праблемы, заўсёды прымаю пазіцыю большасці. Калі многія лічаць, што да літаратуры ставяцца з пагардай, то мне даводзіцца з імі пагаджацца. Хоць як пісьменніку не хацелася б прымаць гэты факт. Сабакі і кнігі з'яўляюцца найлепшымі сябрамі чалавека, але сучасныя людзі аддаюць перавагу сабакам. Па меры хуткага развіцця жыцця людзі ўсё менш чытаюць і ўсё больш звяртаюцца да іншых рэчаў. У іх уяўленні літаратура менш цікавая, чым анлайн-гульні. У пісьменнікаў ніколі не будуць так заканымі, як у спевакоў, кіназорак, футбалістаў. Канечне, на пісьменнікаў не будуць сварыцца. Дзіўна, але аўтараў паважаюць больш, хоць яны не багатыя і ў іх руках няма ўлады. Чалавек, які казаў пра смерць літаратуры, ужо даўно пайшоў з жыцця, але літаратура ўсё яшчэ жывая. Пакуль жыве чалавецтва, літаратура заўсёды будзе побач, у гэтым я абсалютна ўпэўнены. І сітуацыя ў Кітаі не выключэнне.

Так, я ўпершыню буду ў Беларусі. Але ў сне я любаваўся выдатнымі пейзажамі, зайшоў у лес, падышоў да возера, дыхаў чыстым паветрам. Мінск — чароўны, мілы горад, ён стаў светам казак у маім юнацтве. Я вельмі чакаю гэтую выстаўку. Акрамя знаёмства з беларускімі пісьменнікамі і чытачамі, мне хацелася б наведаць тэатры, паглядзець знакаміты і вытанчаны балет.

Выдатныя творы любой нацыі з'яўляюцца неад'емнай часткай сусветнай літаратуры. Розніца паміж літаратурамі Кітая і Еўропы — вось тое, што прываблівае. Літаратура — чалавеказнаўства, яна звяртае ўвагу на чалавечнасць і лёс, а таксама на стан развіцця цывілізацыі. Гэта і ёсць агульная рыса пісьменнікаў розных нацыянальнасцей, краін і кантынентаў. Калі мы не можам зразумець аповесці ці раманы, якія падабаюцца чытачам іншай краіны, галоўная прычына гэтаму — не ў ладзе мыслення, а ў перакладзе. Літаратура — мастацтва моў, таму без выдатных перакладаў узаемаўзбагачэння не можа адбывацца.

Аб'ём маіх тэкстаў невялікі, але сюжэт шырокі. Праз гэтыя «ўрыўкі» можна бачыць існіцу, абсурднасць і эпіскапскі характар маленькіх людзей ва ўсіх сацыяльных слаях сучаснага жыцця Кітая. Спадзяюся, мае творы спадабаюцца беларускім чытачам.

**Сю Цзэчэнь, празаік, магістр літаратуры, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Лу Сіня, Літаратурнай прэміі імя Чжун Чунвэня, вялікай прэміі СМІ па кітайскамоўнай літаратуры:**

— Раней чытанне было амаль галоўным і адзіным спосабам атрымання інфармацыі, эстэтычнага задавальнення, а таксама забавы. Але развіццё навукі, разнастайнасць жыцця перамяшчае літаратуру ў маргінэз. Пазіцыя пісьменнікаў услед за гэтым таксама становіцца маргінальнай. Але, як мне падаецца, сапраўдная маргіналізацыя і ёсць належны стан існавання літаратуры. Наш свет надта дыверсіфікаваны, а літаратура і чытанне — толькі адзін са спосабаў пазнання рэчаіснасці. І я не ўпэўнены, што аддаваць перавагу толькі яму аж да смерці — добрае рашэнне. Не толькі ў Кітаі, але і ва ўсім свеце людзі сутыкаюцца з аднолькавымі пытаннямі.

У Беларусі буду ўпершыню. Мне хочацца, каб падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу чытачы з вашай і іншых краін бліжэй пазнаёміліся з кітайскай літаратурай і маёй творчасцю. Для мяне выстаўка — гэта таксама магчымасць больш даведацца пра творчасць беларускіх аўтараў і пісьменнікаў з іншых краін. Спадзяюся, што стасункі будуць развівацца.

Паміж рознымі культурамі сапраўды існуе розніца, але гэта някепска. Розніца — значыць разнастайнасць свету, што з'яўляецца перадумовай для ўсебаковага абмену і ўзаемнага вывучэння. Мае кнігі рэалістычныя і таксама маюць сваю ўнікальнасць. Іх дзеянне адбываецца ў Кітаі, творы — пра духоўныя цяжкасці моладзі, жыццё ў гарадах. Па-мойму, пытанні таксама актуальныя для Еўропы і Беларусі ў прыватнасці. Таму я перакананы, што для чытання і разумення маіх твораў не існуе перашкод.

УКРАІНА

# Вершы, якія прывабілі




*Кононенко О. А. ТАЇНА ПЕРА: поетичні переклади. — К.: АДЕФ-Україна, 2013. — 336 с.*

«Таямніца пяра» — зборнік перакладаў на ўкраінскую мову вершаў паэтаў з Азербайджана, Беларусі, Арменіі, Грузіі, Казахстана, Туркменістана, Узбекістана. На старонках кнігі прадстаўлены творы розных эпох: падборкі пачынаюцца імёнамі азербайджанскага паэта Катрана Тэбрэзі (1010 — 1080), армяніна Рыгора Нарэцкага (951 — 1003), узбека Юсуфа Хас-Хаджыба (XI ст.). Кола сучасных аўтараў таксама шырокае: туркменскія паэты Агагэльдзі Аланазараў, Арзагулі Ананаеў, казахі Бахытжан Канап'янаў і Жанат Аскэрбэкызы, рускамоўныя ўкраінскія аўтары Аляксандр Афонін, Аксана Бажэнка, Максім Кананенка... Літаратура кожнай краіны прадстаўлена як мінімум пяццю імёнамі, выключэнні (больш за дзесяць аўтараў) — паэзія Азербайджана і Арменіі. Такім чынам, пад адной вокладкай сабраны творы больш як паўсотні паэтаў.

Мноства імёнаў, жанраў і тэм робіць складанай сістэматызацыю гэтай літаратурнай скарбонкі: верагодна, пры выбары вершаў Аляксей Кананенка кіраваўся як значнасцю імёнаў і твораў у нацыянальных літаратурах, так і асабістымі прыхільнасцямі. Пераўзнаўляць тое, што падабаецца, з чым хочацца пазнаёміць чытачоў-суайчыннікаў, — чым не крытэрый для прыемнай працы над уласным зборнікам перакладаў? Асалоду ад добрай літаратуры перадаюць і сімвалізуюць прывабныя дзяўчаты з работ Альфонса Мухі. З аднаго боку, спакуслівыя выявы робяць прыгожае пісьменства прывабным для самых розных катэгорый патэнцыйных чытачоў. З іншага боку, чаму б па прынцыпе гендарнай роўнасці побач з малюнкамі шыкоўных жанчын не змясціць выявы вабных мужчын (каб крыўдна не было)?

За чаканнем другой кнігі А. Кананенкі прыгожай палове чалавецтва, прынамсі, будзе што пачытаць. Перакладчык звяртаў увагу пераважна на творы, якія апяваюць каханне і любоў да жыцця, а таксама дасціпнасць, прынцыповасць, здаровы розум і кемлівасць. Між геданістычных вершаў нямала выключэнняў — на ўласны густ, лепшымі старонкамі зборніка сталі фардзі Алішэра Навоі і верш Ахмада Югнакі «Пра тое, як берагчы язык» (Узбекістан), творы туркменскага паэта Атамурада Атабаева, паэзія Максіма Кананенкі. Беларуская літаратура прадстаўлена вершамі Сяргея Законнікава, Віктара Шніпа, Людмілы Рублеўскай, Алеся Бадака, Таццяны Сівец. У творах беларускіх паэтаў — у параўнанні не толькі з «даўнімі», але і сучаснымі пісьменнікамі іншых краін — найбольш выяўлена аўтарская суб'ектыўнасць.

Варта думаць, што зборнік перакладаў стаў для ўкраінскіх чытачоў прыемным знаёмствам з сусветнай літаратурай.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Усё наперадзе...

Прастора беларуска-ўкраінскіх літаратурных стасункаў традыцыйна звязана з публікацыяй перакладаў украінскай паэзіі і прозы на беларускую мову ў часопісе «Полымя». Старэйшае літаратурна-мастацкае выданне Беларусі і надалей прытрымліваецца гэтага кірунку.

У леташнім жнівеньскім нумары часопіса з'явілася падборка «Сучасныя ўкраінскія апавяданні». Сярод аўтараў — Анатоль Дзімараў, Галіна Тарасюк, Васіль Парцяк, Уладзімір Даніленка, Міхайла Слабашпіцкі. Перакладчыкі — Юлія Алейчанка, Вікторыя Шымко, Наталля Луновіч, Людміла Рублеўская. Прадмову да публікацыі твораў украінскіх пісьменнікаў напісала малады і таленавіты крытык і перакладчык Юлія Алейчанка. Назва прадмовы цікавая і сімвалічная — «Узмінь». Вось што, у прыватнасці, піша спадарыня Алейчанка: «Агульнасць у развіцці літаратур украінскай і беларускай праяўлецца на пачатку 90-х у стварэнні авангардысцкіх літаратурных таварыстваў (назва нашага «Бум-Бам-Літа» выразна сугучная з украінскім «Бу-Ба-Бу»). Раздрай паміж маладымі-дзёрзкімі і старэйшым пакаленнем не абмінуў Украіну. Створаная ў 1997 г. Асацыяцыя ўкраінскіх пісьменнікаў на чале з Тарасам Федзюком пачала змаганне супраць «састарэлых літаратурных прыпадабненняў». Аднак і цяпер ніхто не аспрэчвае аўтарытэтнасць у значнай ступені знаёмых беларускаму чытачу Васіля Парцяка, Паўла Маўчана, Любові Галоты, Уладзіміра Даніленкі, Васіля Герасімюка і інш. І ўсё ж цяжка перакладальны ўкраінскі архаізм «узьмінь», які абазначае хуткасць, зменлівасць воднай плыні, напэўна, найлепшым чынам характарызуе стан сучаснай украінскай літаратуры. Прычым шакіруюць і правакуюць публіку як маладыя, так і старэйшыя. Напрыклад, у 2010 годзе прыцягнула ўвагу грамадскасці класік Ліна Кастэнка раманам «Запіскі ўкраінскага вар'ята», напісанага ад асобы 35-гадовага праграміста. Не так даўно шырокі рэзананс меў і раман «Чорны груган» Васіля Шкляра, які адны крытыкі прылічылі да найбольш яркіх і цікавых падзей літаратурнага жыцця, а іншыя — да безгустоўнай палітычнай прапаганды. А чаго толькі вартая, напрыклад, адмова Юрыя Андруховіча ад Нацыянальнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі ці падпісанне ўласнай крывёй кантракта з выдавецтвам «Фоліа» Ладай Лузінай?»

Трэба адзначыць, што часопіс «Полымя» выходзіць у Выдавецкім доме «Звязда», які прыкладае шмат намаганняў для папулярызацыі сучаснай украінскай літаратуры на беларускай мове. Яркім прыкладам стала і публікацыя ў перакладзе на беларускую аповесці Уладзіміра Даніленкі «Сонейка маё, чорнае і калматае» ў адзінаццатым і дванаццатым нумарах часопіса «Полымя». Перакладчык — Алесь Карлюкевіч.

— Мы вельмі ўважліва сочым за развіццём сучаснай украінскай літаратуры, — дзеліцца развагамі галоўны рэдактар «Полымя» Алесь Бадак. — У нашай памяці даўнейшыя традыцыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных стасункаў. Цікавым падаецца такі факт. У 1918 — 1986 гадах на беларускай мове ў Мінску пабачыла свет 169 кніг украінскіх пісьменнікаў. Для параўнання: у перакладзе з літоўскай — 30, з латышскай — 29, з узбекскай — 19... З іншых моў народаў былога Саюза — яшчэ меней. Цяпер мы працуем над анталогіяй украінскага апавядання. Спадзяюся, што сёлета зборнік пабачыць свет. Мы вельмі ўдзячны за кансультацыі, падказкі ў гэтай справе Галіне Тарасюк, Уладзіміру Даніленку. У газеце «Літаратура і мастацтва» апошнім часам былі надрукаваны вершы Ярославы Паўлычкі, Галіны Тарасюк, Аляксея Кананенкі... Шмат хто з беларускіх літаратараў выступаюць добрымі кансультантамі і прапагандыстамі па пытаннях украінскага прыгожага пісьменства для нашых выданняў. Найперш — Вячаслаў Рагойша, Таццяна Кабржыцкая, Сяргей Панізнік. Менавіта такая супраца і спрыяе наладжванню добрых стасункаў. А многія цікавыя творчыя праекты ў нас яшчэ наперадзе!

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

Драган Лакічавіч (1954 г. н.) — вядомы сербскі пісьменнік, дзеяч культуры на працягу больш як двух дзесяцігоддзяў выконвае абавязкі галоўнага рэдактара найзначнейшага ў краіне выдавецтва «Српска књижевна задруга» (якое, дарэчы, выпусціла ў свет два выданні «Анталогіі беларускай паэзіі», а пан Лакічавіч актыўна папулярызаваў іх).



Лакічавіч-літаратар надзелены шматгранным талентам. Ён атрымаў заслужана высокае прызнанне як паэт: аўтар зборнікаў «Між намі зіма» (1976), «Іншая асоба» (1976), «Гісторыя хваробы» (1980), «Багіня з машыны» (1982), «Роў» (1987), «Бог на Косава» (1990), «Ліхі год» (1999), «Пранеслася адна песня» (2000), «Свечкі на снезе» (2003), «Снег ідзе, душа мая» (2004), «Заснежаны сад» (2010), «Снежная ікона» (2014). Але не менш, бадай, сцвердзіўся таксама як раманіст («Студзенград», «Ключ ад зямлі», «Атрадны д'ябал», «Мастэрмайнд», «Ангел смерці», «Лубоўная кніжка»). Навеліст («Вар'яцкі рукапіс», «Лёгкі», «Тым летам») і апавядальнік для дзяцей («Казка пра яблык», Меч князя Стэфана», «Прынцэса і леў», «Бялградская прынцэса», «Робін Гуд з Тапчыдэрскага лесу», «Вяртання Пятра Пана»).

Бясспрэчна арыгінальная з'ява не толькі ў сербскай літаратуры — аўтарскія легенды Д. Лакічавіча, якія склалі кнігі «Косаўскія легенды», «Легенды пра Бялград», «Посах святога Савы», «Посах Патрыярха Паўла». Варта, напэўна, адзначыць, што апошняя з названых кніг на рускай мове нядаўна выдадзена ў Мінску. Сёлета Драган Лакічавіч запрошаны на Мінскі міжнародны кніжны кірмаш. Прыемнага знаёмства з сербскім калегам!

**Іван ЧАРОТА**

СЕРБІЯ

## Драган ЛАКІЧАВІЧ

### Сонечны дзень

*Паветра святлом заліта*
*І наэлектрызавана*

*Пенсіянеры выходзяць з музея*

*Тэпаюць павольна*
*Без увагі да вялікіх гадзіннікаў*
*Якія ў кішэнях і на тварах*
*Даўно ўжо не заведзены*

*Прамільгваюць твары з альбома*

*Дзень з віхурамі магнітнымі*
*Ды электрычнымі*

*Трымціць у паветры*
*Думка*

*Што вылецела з крамы*
*старызна*

### Пішучая машынка

*Малая мая машынка*
*Для пісання*
*Стукае ў пульсе маім*
*І праз мой слых*
*Пасоўвае чорную ленту*

*Усё маўленне маё*
*Вынікла з яе гукаў*
*З яе музыкі*

*Хворыя грудзі мае*
*Запаўняюцца яе выдыхамі*

*На сталe пахнуць не кветкі*
*А зноў жа яе лента*
*На белай паперы*
*Заўжды выяўляецца*
*Маё другое аблічча*
*На яе клавішах*
*Будуць вочы і пальцы мае*
*Заўсёды*

### Падземная зала

*Распарадчыца ў зале*
*Музея Кінатэкі*
*Звацца павінна была б*
*Джына Зданецці*

*З доўгімі валасамі*
*Ў гарнітуры чорным*
*Яна толькі што*
*Прыйшла з даўняга фільма*

*Калі ж я ў залу зайду*
*Мяне на ўваходзе стрэне*
*Яе малы Зданеціна*
*Возьме шапку і парасон*

*У зале падзем'я*
*Якую не асветліць*
*І тысяча лямпачак*
*Поўна розных зданяў —*
*Смяюцца на крэслах*

### Пісьмо з вострава

*Народ схаваны ў гарах*
*Робіць казіны сыр*
*І знаць не знае пра Адысея*
*Які тут няраз бываў*
*Пакуль яго ведзьма з пячоры*
*Не ператварыла ў казла*

*Народ збег у лясы*
*Дзеці з качынымі пальцамі*
*(Брат з сястрой а маці з сынам)*
*Забыліся пра тое што з сысуноў*
*Міжземнаморская мядзведзіца*
*Якую з Ліхагор'я*
*Сюды прывялі тайныя сваты*
*Народ у падманных гарах*
*Ведае толькі паданне:*
*У моры востраў*
*На востраве возера*
*У возеры востраў*
*На востраве паселішча*
*У паселішчы гасцініца*
*У гасцініцы німфы*
*і сатыры*

*Тут калі заснеш*
*Сыходзяцца адначасова*
*Істоты і рэчы з розных часоў*
*І як гадзюкі знікаюць*
*У шчылінах скал*

### План Бялграда

*Перада мной план Бялграда*
*Крэпасць Храм Бібліятэка*
*Бераг ракі нібы мяжа веку*
*Які тысячагоддзю*
*не рады*

*І ў душы маёй рака цячэ*
*Вуліцы святло залівае*
*А над імі ўсюды мільгае*
*Цень твой не забыты яшчэ*

### Косаўская ноч

*Смутак з Косава не сыходзіць*
*Ужо больш за шэсць стагоддзяў*

*Не чуваць галасоў дзіцячых*
*У здранцвелым тым краі нашым*

*Нібы ўсё поле пераарала*
*Тая ноч якая настала*

*І пакрыла расою чорнай*
*Косаўскіх дзяўчат уборы*

# Загадкі ўсходніх скруткаў

**Сцвярджаць, што ў Мінску няма калекцый усходняга мастацтва, было б вялікай памылкай. У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь захоўваюцца выдатныя зборы кітайскай і японскай керамікі і фарфору, будысцкай бронзы. Ёсць і прыватныя калекцыі, сабраныя аматарамі загадкавага Усходу. Але звестка пра тое, што ў сталіцы маецца ўнікальны збор з больш як чатырох дзясяткаў кітайскіх і японскіх скруткаў, стала сапраўднай сенсацыяй.**



Прадстаўленне гэтай усходняй калекцыі аматарам і спецыялістам адбылося ў сталічным «Кніжным салоне», дзе па традыцыі сустракаюцца збіральнікі кніжных рарытэтаў і прадметаў мастацтва розных эпох. Цяпер ідзе працэс вывучэння, датавання скруткаў, і ўжо дасягнутая папярэдняя дамоўленасць паміж калекцыянерам і Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь аб набыцці ўнікатаў.

— Калекцыя мае выключна музейнае значэнне, — распавядае супрацоўнік аддзела замежнага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, кітаязнаўца Мікіта Моніч. — Мы не можам успрымаць скруткі толькі як прадметы інтэр'ера. Яны розныя, але ў такім спалучэнні і ў такой колькасці гэты збор — вельмі вялікая каштоўнасць. Асабліва калі ўлічваць той факт, што ўмовы фарміравання каштоўнасці мастацкага артэфакта, акрамя яго аднясення да аўтарства і эпохі, уключаюць аспект рэдкасці не толькі ў свеце, але і на тэрыторыі пэўнай краіны. У Беларусі падобных рэчаў вельмі мала. Важнае значэнне мае і колькасць прадметаў у зборы: каштоўнасць двух ці больш скруткаў, прадстаўленых разам, не роўная значэнню кожнага з іх паасобку.

Скрутак з тэкстам ці малюнкам — рэч асаблівая. Той, хто мае яго дома, мусіць выконваць мноства правілаў абыходжання як з самім прадметам, так і яго аўтарам!

— Па меркаванні жыхароў Кітая і Японіі, у пакоі, дзе вісіць скрутак, прысутнічае сам аўтар, — зазначае мастацтвазнаўца Таццяна Бембель. — Да яго трэба ставіцца з павагай, уключаць у кола суразмоўцаў і ні ў якім разе не паварочвацца спіной. Існуюць і рытуалы захоўвання. Скруткі варта трымаць у адмысловых драўляных ці картонных скрыначках, якія дыхаюць, даюць доступ кіслароду і ў той жа час абараняюць ад пылу ці вільгаці.

Ставіцца да скрутка як да карціны, якую можна павесіць на сцяну ў якасці элемента інтэр'ера ў псеўдаўсходнім стылі, таксама няварта.

— У кітайскай культуры скруткі рэдка вешалі на сцены, — распавядае Мікіта Моніч. — Гэта быў хутчэй артэфакт, які раскрывалі толькі ў вельмі рэдкіх і асаблівых выпадках, каб любавацца прыгажосцю. Здаралася, на самім творы пакідалі своеасаблівыя напаміны пра знаёмства — пячаткі ці надпісы, каментары. У выніку сёння часта можна пабачыць твор мастацтва, да прыкладу, скрутак даўжынёй пяць метраў, да якога па баках прымацавана яшчэ тры-чатыры метры дадатковай шаўковай тканіны з каментарамі. Гэта фактычна пачатак каментатарскай традыцыі: тыя, хто любаваўся скруткам і меў дастаткова высокае становішча, у прыватнасці, сам гаспадар ці калекцыянер, маглі пакінуць на палях адбіткі асабістых пячатак і напісаць некалькі слоў пра ўражанні ад сузірання скрутка.

Нягледзячы на тое, што цалкам зразумець на скрутку эстэтыку верша таму, хто не размаўляе па-кітайску ці па-японску, фактычна немагчыма, кожны можа любавацца гэтым прадметам мастацтва, гутарыць з ім. Эстэтычная сістэма працуе, нават калі мы яе не разумеем.

— Адметна, што тэксты са скруткаў, напісаныя іерагліфічнай мовай, нельга перакласці ў поўнай меры і перадаць іх сэнс з дапамогай літар, — разважае Мікіта Моніч. — Да прыкладу, у эстэтычным вобразе, які выяўляецца знакамі кітайскай ці японскай пісьменнасці, у структуры вершаванага тэксту пры яго стварэнні ўлічваецца колькасць рысачак у іерогліфах, ці, напрыклад, выкарыстоўваюцца графемы — адмысловыя знакі, якія нават спосабам напісання выяўляюць пэўны сэнс. Так, ёсць верш пра тое, як прыродзе патрэбная вада ў засушлівы перыяд, і ва ўсіх іерогліфах, што выкарыстоўваюцца пры яго напісанні, маецца ключ «вада», але само слова не выкарыстоўваецца ні разу.

Сапраўднага значэння і каштоўнасці калекцыі скруткаў навукоўцы пакуль не ведаюць. Яшчэ працягваецца працэс вывучэння і аналізу. Але разнастайнасць прадметаў, прадстаўленых у зборы, сапраўды ўражвае. На скрутках можна пабачыць выявы кветак, вершы, напісаныя іерогліфамі, партрэты. Сімвалічным можна лічыць пачатак знаёмства спецыялістаў з калекцыяй. На першым скрутку, які разгарнулі мастацтвазнаўцы, — выява адной з сямі японскіх багінь шчасця: як муза, яна абараняе паэтаў, мастакоў.

Спецыялісты сцвярджаюць: незалежна ад таго, што стане вядома ў працэсе вывучэння скруткаў — ці гэта будуць творы знакамітых майстроў або копіі класічных рэчаў, — іх варта ўспрымаць як вельмі істотныя прадметы. Еўропа захапляецца аўтэнтыкай старажытнасці, Усход — таксама. Тым не менш на Усходзе рэчы, зробленыя майстрам у адпаведнасці з патрабаваннямі традыцыі, канону, мастацкіх характарыстык, што не саступаюць найлепшым узорам класікі, цэняцца не намнога ніжэй, чым старажытныя артэфакты. Павага да ўмення ўзнавіць, прадоўжыць традыцыю тут вельмі важная.

Будзем спадзявацца, што хутка навукоўцы раскрыюць сакрэты ўсходніх скруткаў, тыя, што цяпер у кепскім стане, адрэстаўрыруюць, і мы з задавальненнем завітаем на адкрыццё адмысловай выстаўкі ў Нацыянальны гістарычны музей.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота скруткаў з архіва «Кніжнага салона»**









Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2457.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 05.02.2015 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1457 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686